## КУПАЛЬСКАЕ СВЯТЛО ДА ШЧАСЦЯ ПАВЯЛО...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Купалле -- свята супольнасці. Таму на месцы дзеяння агульнымі намаганнямі ствараецца вялікі стол. Тут ёсць праснакі, сыр, агародніна. Абавязкова часнок, бо яго пах і смак адганяюць нечысць, халаднік-квас, яечня, рыба з перцам, верашчака (адзіная мясная страва на купальскім стале). Па-народнаму верашчака гатуецца так: у каструлю наліваецца вада і квас (4:1). Даводзіцца да кіпення, кладуцца цыбуля, соль, перац. Усыпаецца крыху мукі. Кладуцца кавалачкі падвяленай свініны з косткамі. Варыцца ўсё на павольным агні прыкладна гадзіну. Ежа павінна быць наварыстая. Да яе падаюцца бліны. Выбар напояў самы разнастайны, перавага аддаецца зробленаму ўласнымі рукамі.

*Купалка Івана на вулку звала.*
*Іван-Іванішча, хадзі на йгрышча.*

Моладзь варожыць, бо варожыць заўсёды, бо па глупству свайму хоча падгледзець будучыню.

Існуе адна з самых рамантычных легендаў беларускага народа пра папараць-кветку. Верылі, што яна ўспыхвае асляпляльна белым святлом, цвіце апоўначы некалькі імгненняў і трэба паспець ухапіць яе. «Хто гэту кветку здабудзе, будзе мець усё, чаго толькі душа пажадае», -- гаварылі ў старажытнасці. Вечнае, бясконцае чалавечае жаданне лепшага.

Можа сапраўды, шчасце і цуд -- дзеці адной маці і адно без другога не ходзяць. Але ж дзе гэтыя цуды, даўно яны пра нас забыліся! А можа, права на цуд даецца народу толькі аднойчы?

У Купальскую ноч 114 гадоў назад здарыўся такі цуд: нарадзіўся паэт Янка Купала. І жыў, імкнучыся нічым не пакрыўдзіць жыццё і нёс на шляху сваім святло, нібы ад той кветкі, што загарэлася з яго нараджэннем.

Мы і зараз ходзім шукаць святло той кветкі. Зараз -- асабліва прагнем святла. Можа таму папараць-кветка шчасця і хаваецца ад нас, бо права яе знайсці патрэбна заслужыць і выпакутаваць. Мы паслухмяна пакутуем і чакаем, што хтосьці -- за нас, -- вырашыць усе праблемы і знойдзе шчасце -- для нас. А паэт Купала гаварыў, што кожны павінен сам прайсці праз пакуты сумненняў, не перакідваючы іх на плечы іншых. І ісціна заззяе перад вачыма, бо ісціна -- цуд, які даецца ў пошуку.

Таму Купалле будзе жыць сярод беларусаў -- нам многае яшчэ трэба зразумець. І асэнсаваць шлях да чароўнай кветкі.

**Ганна ГАЎРЫЛЬЧЫК,**
**Ларыса ЦІМОШЫК.**

*СКАНДАЛ*

## КІРАЎНІК СІСТЭМЫ «СЭКАЙ» -- ЗА КРАТАМІ

**Будаўніцтва фінансавых «пірамід» -- справа рызыкоўная не толькі для наіўных укладчыкаў, але і для саміх «архітэктараў» гэтых грандыёзных «гмахаў».**

Праваахоўныя органы арыштавалі кіраўніка сістэмы «Сэкай» Валерыя Буяка, які таксама мае яшчэ і японскае «прозвішча» Бумата Мататацу. Спадар Буяк абвінавачваецца ў парушэнні парадку ажыццяўлення прадпрымальніцкай дзейнасці (артыкул 151 частка другая Крымінальнага Кодэксу Беларусі).

Зусім нядаўна мы ўжо паведамлялі сутнасць узбуджанай супраць Валерыя Буяка крымінальнай справы. Нагадаем толькі, што следства па справе «Сэкай» вядзецца са жніўня мінулага года. Але паколькі існуючае заканадаўства дакладна не рэгламентуе дзейнасць падобных «Сэкаю» сістэм, то праваахоўным органам вельмі складана разблытаць гэтую справу. У прыватнасці, Валерый Буяк заключаў дамовы пазыкі са сваімі «крэдыторамі», а адпаведны закон не абавязвае ў такіх выпадках мець спецыяльную ліцэнзію Нацыянальнага банка на права займацца фінансавай дзейнасцю. Мажліва, калі б спадар Буяк выконваў свае абавязкі перад кліентамі сістэмы «Сэкай» і вяртаў ім даўгі, то не трапіў бы ў поле зроку праваахоўных органаў. Але каля чатырох тысяч «крэдытораў» сістэмы «Сэкай» ужо некалькі месяцаў не могуць атрымаць свае грошы. Напачатку Валерый Буяк тлумачыў спыненне выплаты даўгоў сваім укладчыкам тым, што апасаецца канфіскацыі дзяржавай грашовых сродкаў кліентаў «Сэкай». Справа ў тым, што ў маі бягучага года Прэзідэнтам краіны быў падпісаны ўказ, які абавязвае ўсіх суб'ектаў гаспадарання праводзіць фінансавыя аперацыі толькі пасля набыцця адпаведнай ліцэнзіі Нацыянальнага банка. У адваротным выпадку фінансавыя сродкі будуць канфіскоўвацца ў дзяржбюджэт. Праўда, у Адміністрацыі Прэзідэнта Валерыю Буяку нядаўна выдалі афіцыйны дазвол на выплату кліентам «Сэкая» грошай. Але нават пасля гэтага ён адмовіўся вярнуць даўгі, запатрабаваўшы ліцэнзію Нацбанка на ажыццяўленне фінансавай дзейнасці. Магчыма, атрымаўшы такую ліцэнзію, Валерый Буяк здолеў бы аднавіць прыпыненае будаўніцтва фінансавай «пірамілы» і вярнуць кліентам іх грошы. Аднак рана ці позна хтосьці зноў бы прайграў, бо такі прынцып дзейнасці фінансавай пірамілы.

Зараз «крэдыторы» сістэмы «Сэкай» спадзяюцца, што ў камеры следчага ізалятара Валерый Буяк, урэшце рэшт, прыдумае спосаб вяртання пазычаных грошай. Задача, трэба адзначыць, гэта даволі складаная, бо для таго, каб разлічыцца з усімі «кліентамі» спадару Буяку неабходана каля 500 тысяч долараў.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

# «РАСІЯ ПРЫМУСІЦЬ НАС ІСЦІ НАПЕРАД...»

## Вядомыя людзі Беларусі пра вынікі выбараў у Расіі

**Аляксей КАМАЙ,** ***дэпутат Вярхоўнага Савета, член фракцыі Партыі камуністаў:***

-- Я мяркую, што левыя сілы ў Расіі задаволены вынікамі выбараў, паколькі ва ўсіх рэгіёнах людзі крытычна выказаліся ў адносінах да сучаснага рэжыму кіравання дзяржавай, да эканамічнай і сацыяльнай палітыкі. Ад рэформаў у імя рэформаў народ не ўбачыў паляпшэння жыцця, і таму, аддаючы пэўную перавагу левым сілам, ён выказаўся за змяненне ранейшага эканамічнага курсу, за забеспячэнне сацыяльнай абароненасці людзей, за гарантыі правоў чалавека. Што датычыцца ўсё ж перамогі Ельцына, то ў перыяд перадвыбарнай кампаніі ў кандыдатаў не было роўных правоў, аб чым сведчыць аднабокая агітацыя ў сродках масавай інфармацыі. Усё працавала на Ельцына. І гэта адыграла сваю ролю.

**-- Калісьці ў нас усё працавала на Кебіча...**

-- Гэта розныя рэчы, якія нельга параўноўваць, таму што Кебіч не быў прэзідэнтам. Калі мы звернемся да наступных выбараў у Беларусі, то карціна будзе зусім іншай.

**-- Што значаць выбары ў Расіі для беларускіх камуністаў?**

-- Для іх гэта добры ўрок вядзення прапаганды. Да таго ж гэта добрая магчымасць узяць шмат карыснага з эканамічнай праграмы расійскіх камуністаў. А з іншага боку, гэта і магчымасць вывучыць памылкі іх перадвыбарнай барацьбы і не дапусціць іх у будучым у сябе.

**Генадзь БУРАЎКІН,** ***намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Вожык»:***

-- Хацелася б сказаць, што вынікі выбараў у Расіі для мяне сталі прыемнай навіной і яшчэ адной надзеяй на тое, што і ў Расіі, і ў нас будзе і далей развівацца дэмакратыя. Я не столькі звязваю барацьбу на выбарах з асобамі Ельцына і Зюганава, колькі са шляхамі, якія яны прапаноўвалі для далейшага развіцця Расіі. Народ Расійскай Федэрацыі ў выніку выбраў шлях наперад, а не назад, у мінулае. Тое, што прапаноўваў Ельцын, -- гэта шлях наперад, няхай складаны і цяжкі. Тое, да чаго заклікаў Зюганаў, няхай і закамуфліраваны, але шлях у былое. Хаця, безумоўна, там было і добрае. Мы звязаны з Расіяй самымі рознымі «нітачкамі», таму будзем вымушаны больш рашуча ісці таксама наперад, хаця вельмі многія ў нас спадзяваліся на адваротнае. Акрамя таго асабіста для мяне вынікі выбараў у Расіі пакінулі спадзяванне, што не ўдасца стрымаць у нашай краіне рэформы, што значна цяжэй будзе абмяняць наш суверэнітэт на нейкія матэрыяльныя ці палітычныя выгоды.

**Алег СЛУКА, памочнік Прэзідэнта Беларусі:**

-- Па-першае, я задаволены тым, што выбары адбыліся. Вы памятаеце, што наконт гэтага ў свой час было шмат боязі. Па-другое, зараз дзяржаўная эканамічная, сацыяльная і палітыка-міжнародная машына ў Расіі будзе дзейнічаць калі не ў ранейшым рэжыме, то хаця б па ранейшай ідэалогіі. Гэта значыць, не будзе нейкіх рэзкіх нечаканых паваротаў у палітычным курсе. Па-трэцяе, палітыка, накіраваная на сацыяльна-эканамічнае і культуралагічнае яднанне ў межах садружнасці Беларусі і Расіі будзе набіраць моц і больш істотны статус. Мяне задавальняе і сіла «левых», але, як бачым, народ Расіі выбар зрабіў не на іх карысць. Гэтаму выбару павінна адпавядаць усё, што будзе рабіцца ў Расіі да канца гэтага стагоддзя. Выбар народа суседняй дзяржавы я не толькі падзяляю і падтрымліваю, але і бачу ў ім добры знак для развіцця ўзаемавыгадных беларуска-расійскіх адносінаў.

**-- Высокая папулярнасць Зюганава, на вашу думку, аб чым сведчыць?**

-- Левасацыялістычныя настроі ў Расіі, асабліва ў сучасны складаны перыяд станаўлення дзяржавы, вельмі моцныя. І таму іх трэба паважаць. Мяркуецца, што гэта будзе ўлічана ў фарміраванні новага кіравання ў дзяржаве. Прэзідэнт ужо заявіў, што месца для тых, хто будзе працаваць у імя інтарэсаў Расіі, знойдзецца. Зюганаў жа ў сваю чаргу заявіў, што камуністы абмяркуюць любыя прапановы. І гэта трэба ацаніць годна.

**Людміла ГРАЗНОВА,** ***дэпутат Вярхоўнага Савета, член фракцыі «Грамадзянскае дзеянне»:***

-- Вынікі выбараў пацвердзілі нашы ранейшыя прагнозы. Яны сведчаць аб тым, што расійскі народ аддаў перавагу тым эканамічным рэформам, якія праводзіліся Ельцыным і папярэднім урадам. Адначасова дастаткова вялікі працэнт галасоў, аддадзеных за Зюганава, сведчыць, што колькасць людзей, якія не пазбавіліся настальгіі па мінулых часах, вялікая не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі. Мяркую, прэзідэнцкія выбары ў Расіі акажуць моцны ўплыў на палітычнае і эканамічнае становішча ў нашай краіне. Менавіта Масква будзе гасіць рэзкія хістанні нашай улады. Да таго ж я спадзяюся, што нарэшце ў Рэспубліцы Беларусь закончыцца працяглы перыяд зацішша і пачнецца канкрэтная работа, накіраваная на рэфарміраванне эканомікі, на паляпшэнне жыццёвага ўзроўню людзей.

**Запісаў Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

*«КРУГЛЫ СТОЛ «ЗВЯЗДЫ»*

## БЕЛДЗЯРЖУНІВЕРСІТЭТ: УЧОРА, СЁННЯ, ЗАЎТРА

**У гэтым годзе вышэйшая школа рэспублікі адзначыць 75-годдзе. Лічба здаецца неверагоднай, бо мы ўжо прызвычаіліся да шчыльнай, разгалінаванай сеткі ВНУ па ўсёй краіне. Дарэчы будзе ўзгадаць, што ў пачатку стагоддзя Беларусь была глыбокай правінцыяй Расійскай імперыі (Северо-Западным краем), пра вышэйшыя навучальныя ўстановы размова наогул не вялася. Белдзяржуніверсітэт стаў «першай ластаўкай»: менавіта з часу яго стварэння і пачынаецца адлік гісторыі нацыянальнай вышэйшай адукацыі.**

**У сённяшняй размове прымаюць удзел выконваючы абавязкі рэктара БДУ член-карэспандэнт АНБ, доктар тэхнічных навук прафесар П. Д. Кухарчык, прарэктар па вучэбнай рабоце, доктар філасофскіх навук прафесар А. І. Зелянкоў, прарэктар па навуковай рабоце, член-карэспандэнт АН Беларусі, доктар хімічных навук прафесар А. І. Лесніковіч, прарэктар па вучэбнай і сацыяльнай рабоце, кандыдат хімічных навук А. В. Паўлаў, начальнік вучэбна-метадычнага ўпраўлення, кандыдат хімічных навук дацэнт У. В. Самахвал.**

### ВЫТОКІ

***Кар.*** **Дарэчы будзе ўзгадаць, як усё пачыналася?**

***П. Кухарчык.*** У 1919 годзе была прынята Пастанова Цэнтральнага выканаўчага камітэта рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Беларусі аб адкрыцці ў Мінску дзяржаўнага універсітэта і выдзелены асігнаванні на першыя патрэбы па яго арганізацыі -- 1 млн. рублёў. З першых дзён значную і дзейсную дапамогу ў стварэнні БДУ аказвалі вучоныя Расіі і, у першую чаргу, Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта. Дзеля гэтага былі створаны дзве камісіі -- мінская (пад старшынствам акадэміка Карскага) і маскоўская (пад старшынствам прафесара Волгіна). Планавалася ўжо з 1 мая 1919 г. адкрыць падрыхтоўчыя курсы для паступаючых у БДУ, а з верасня прыняць студэнтаў на фізіка-матэматычны і аграномічны факультэты. Гэтаму перашкодзіла акупацыя Мінска, які быў вызвалены толькі 11 ліпеня 1920 года. Адразу ж аднавілася праца па арганізацыі БДУ. Роўна праз год, 11 ліпеня 1921 года ў гарадскім тэатры адбылося ўрачыстае пасяджэнне, прысвечанае адкрыццю нашага універсітэта. Першым рэктарам стаў вядомы гісторык прафесар У. Пічэта. У Мінск былі накіраваны вядомыя вучоныя Маскоўскага, Петраградскага, Казанскага і іншых універсітэтаў. Восенню 1921 года прыёмная камісія залічыла 293 чалавекі на медыцынскі факультэт і 736 -- на факультэт грамадскіх навук.

### БДУ СЁННЯ -- ГЭТА...

***П. Кухарчык.*** 13 асноўных факультэтаў, 2 -- падрыхтоўчыя і 3 факультэты павышэння кваліфікацыі. Па 35 спецыяльнасцях праходзіць звыш 14 тысяч студэнтаў, каля 400 аспірантаў і дактарантаў. Ва універсітэце працуе амаль паўтары тысячы выкладчыкаў, 170 з якіх -- дактары навук.

Кожная ВНУ павінна глядзець у перспектыву -- прадбачыць, якія спецыялісты запатрабуюцца краіне. За апошнія 5 гадоў у БДУ адкрылася падрыхтоўка па 16 новых спецыяльнасцях і 56 спецыялізацыях. Міжнародныя адносіны, псіхалогія, культуралогія, актуарная матэматыка, біятэхналогія, экалогія, геалогія, блок эканамічных і філалагічных спецыяльнасцей і многія іншыя істотна дапоўнілі універсітэцкую палітру спецыяльнасцей і спецыялізацый.

Колькасць спецыяльнасцей гуманітарнага профілю вырасла з 9 да 21, а прыродазнаўчага -- з 10 да 14.

**(Заканчэнне на 6-й стар.)**

*ВІКТАРЫНА*

## ДАВЕДАЦЦА ПРА ІЕРУСАЛІМ І ЎБАЧЫЦЬ ЯГО ЎЛАСНЫМІ ВАЧЫМА

«Дзесяць мер прыгажосці было адпушчана свету, -- гаварылі старажытныя пракокі. -- Дзевяць -- Іерусаліму і адна -- астатняму свету».

Старажытная сталіца яўрэйскай дзяржавы сёння з'яўляецца святым месцам пакланення для прадстаўнікоў трох монатэістычных рэлігій і выклікае цікавасць ва ўсіх людзей. Тут кіраваў Цар Давыд і прапаведваў Ісус Хрыстос. Гэта горад, апеты прарокамі і паэтамі ўсіх часоў, навекі засведчаны ў літаратуры і рэлігіі.

Гораду міру, гораду сонца, гораду Давыда -- Іерусаліму сёлета спаўняецца 3000 гадоў! З нагоды гэтай гістарычнай даты Пасольства Ізраіля ў Беларусі праводзіць віктарыну «Іерусалім учора і сёння».

Віктарына з'яўляецца часткай вялікай праграмы, якая была падрыхтавана і ажыццёўлена Беларускім камітэтам па святкаванню 3000-годдзя Іерусаліма.

**Адказы на віктарыну трэба прысылаць да 16 ліпеня 1996 г. (па паштоваму штэмпелю) у Пасольства Ізраіля па адрасу: 220033, г. Мінск, пр. Партызанскі, 6а з паметкай «Віктарына».**

Сярод тых, хто правільна адкажа на ўсе пытанні, будзе разыграны прыз -- тыднёвая паездка ў Ізраіль. Білет прадастаўляецца Беларускай нацыянальнай авіякампаніяй БЕЛАВІЯ, знаходжанне -- сумесным прадпрыемствам «ШаломТур».

*ПЫТАННІ ВІКТАРЫНЫ*

### «ІЕРУСАЛІМ УЧОРА І СЁННЯ»

*1. Мы адзначаем 3000-годдзе Іерусаліма. Што адбылося 3000 гадоў таму назад?*

*2. Сталіца Ізраіля мае многа назваў, акрамя «Іерусалім». Прывядзіце прыклады, прынамсі, яшчэ пяці.*

*3. Галоўныя святыні трох рэлігій у Іерусаліме?*

*4. Старая частка Іерусаліма акружана сцяной. Колькі варот у сцяне і як яны называюцца?*

*Якія вароты ў сцяне Старога горада закрыты? Хто іх закрыў і чаму? Калі, згодна з іудаізмам, ісламам і хрысціянствам, гэтыя вароты павінны адкрыцца?*

*5. Якая даўжыня часткі, што захавалася, падпорнай сцяны Другога Храма (так званай Заходняй ці Сцяны Плачу)?*

*6. Як умацоўваліся каменныя глыбы пры ўзвядзенні Сцяны Плачу?*

*7. Разбурэнне Іерусалімскага Храма -- трагічная падзея ў гісторыі народа Ізраіля. У які дзень і як яўрэі спраўляюць жалобу ў сувязі з гэтым?*

*8. Калі і кім быў пабудаваны першы яўрэйскі раён за межамі крапасных сцен Старога Горада?*

*9. Адна з плошчаў у ізраільскай сталіцы названа плошчай Давыдкі. Чаму яна так называецца?*

*10. Якімі ўзгоркамі акружаны Іерусалім?*

*11. Калі Іерусалім быў абвешчаны сталіцай яўрэйскай дзяржавы?*

*12. Герб Іерусаліма (ён жа эмблема муніцыпалітэта) заснаваны ў 1950 годзе. Што і каго сімвалізуюць элементы герба?*

*13. Хто ўзначальвае муніцыпалітэт Іерусаліма і ў якім годзе ён быў выбраны? Назавіце імя і час знаходжання на пасадзе папярэдняга мэра.*

*14. Хто з лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры жыў і памёр у Іерусаліме?*

*15. У Іерусаліме ля будынка Кнесета знаходзіцца скульптура -- сямісвечнік -- Менора. Што яна сімвалізуе і якая яе гісторыя?*

*16. Старшыня Кнесета (ураджэнец г. Бабруйска) заказаў у мастака (выхадца з г. Віцебска) трыпціх для будынка парламента. Назавіце іх імёны і назвы габеленаў.*

*17. Колькі іракскіх ракет упала на Іерусалім у час аперацыі «Бура ў пустыні»?*

*18. Яўрэйскі мастак Марк Шагал, які жыў у Францыі, падарыў у 1962 годзе серыю выдатных аконных вітражоў установе ў Іерусаліме. Што гэта за ўстанова і што адлюстравана на вітражах?*

*19. На тэрыторыі гасцініцы «Халіленд» размешчаны незвычайны макет. Што ён адлюстроўвае?*

*20. Як генерал Аленбі ўвайшоў у Іерусалім у 1917 годзе?*

*21. Праз якія вароты ўвайшлі ў Стары Горад ізраільскія парашутысты ў Шасцідзённую вайну? Назавіце дату.*

*22. У Іерусаліме знаходзіцца дзяржаўная ўстанова-музей, якая вывучае і дакументуе лёс яўрэяў у гады другой сусветнай вайны. Што азначае яе назва?*

*23. Адзін з самых вядомых выразаў, які сімвалізуе сувязь яўрэйскага народа з Іерусалімам, змяшчае слова «дзясніца». Назавіце фразу і першакрыніцу.*

*РЭХА ПАДЗЕЙ*

## ГАРАЧЫ ПАЧАТАК ЛІПЕНЯ

Пра палітычную падзею № 1 мінулага тыдня -- перамогу Барыса Ельцына на прэзідэнцкіх выбарах у Расіі -- шмат ужо сказана і напісана. Своеасаблівай навіной для многіх беларускіх грамадзян стала тое, што ў перамозе Ельцына ніколькі не сумняваліся кіраўнікі дзяржавы. Аднак даведаліся пра гэта чытачы і слухачы толькі 4 ліпеня.

Другая значная падзея мінулага тыдня -- буйная знешнепалітычная ініцыятыва Аляксандра Лукашэнкі, выказаная ім 3 ліпеня, падчас святкавання чарговай гадавіны вызвалення Беларусі ад фашысцкай акупацыі. Беларускі Прэзідэнт прапанаваў стварыць бяз'ядзерную зону, якая прасціралася б ад польска-нямецкай да беларуска-расійскай мяжы і ад Балтыйскага мора на поўначы да Чорнага -- на поўдні. Гэта разумная прапанова, відавочна, здольная знайсці нямала прыхільнікаў сярод палітыкаў Усходняй і Цэнтральнай Еўропы. Аднак бурнай рэакцыі на ініцыятыву з боку еўрапейскіх краін пакуль не назіраецца. Часткова гэта тлумачыцца тым, што заява Прэзідэнта Беларусі па часу супала з фінішам выбарчай кампаніі ў Расіі, якая па зразумелых прычынах пакінула ў цені ўсе астатнія палітычныя падзеі. Акрамя таго, у пэўнай ступені адбіліся спецыфічнае стаўленне Захаду да палітычнай сітуацыі ў Беларусі, вынікам якога сталі прыкметы палітычнай ізаляцыі нашай краіны.

На мінулым тыдні адбылася змена статуса парламенцкай «Народнай газеты» -- яна перастала быць органам Вярхоўнага Савета і згодна з прэзідэнцкім указам стала закрытым акцыянерным таварыствам. Хірургічная аперацыя па выдаленню органа была праведзена імкліва і паспяхова: парламент нават адрэагаваць не паспеў.

Сітуацыя дакладна адлюстроўвае цяперашнюю расстаноўку палітычных сіл у краіне і здольнасць беларускага парламента выступаць у якасці самастойнай галіны ўлады.

Падзеяй нумар адзін у банкаўскай супольнасці Беларусі з'явілася на мінулым тыдні распараджэнне Аляксандра Лукашэнкі аб стварэнні спецыяльнай камісіі па праверцы некаторых аспектаў работы «Беларусбанка». Нагадаем: «Беларусбанк» ператварыўся ў буйнейшы ў Беларусі дзяржаўна-камерцыйны банк пасля аб'яднання яго летась з Ашчадным банкам Беларусі. Аб'яднанне і далейшая дзейнасць банка звязаны з імем Тамары Віннікавай, цяперашняга старшыні Нацыянальнага банка.

Сярод банкіраў цыркулююць чуткі аб ускладненні адносін Тамары Віннікавай з Прэзідэнтам, вынікам чаго і стала стварэнне камісіі, якая будзе правяраць, наколькі законна выдаткоўваў «Беларусбанк» грошы на будаўніцтва жылля і на высокія зарплаты сваім супрацоўнікам. Не выключана, што па выніках працы камісіі ў банкаўскім кіраўніцтве краіны адбудуцца істотныя перастаноўкі.

**Валянцін ЖДАНКО.**

Мечаслаў ГРЫБ:

# «УСЕ МЫ З БЫЛЫХ, АЛЕ ГЛЯДЗЕЦЬ ТРЭБА НАПЕРАД»



## РАДКІ З БІЯГРАФІІ

*Нарадзіўся 28 верасня 1938 года ў сялянскай сям'і ў в. Савічы Дзятлаўскага раёна Гродзенскай вобласці.*

*У 1959 годзе закончыў Львоўскае вучылішча МУС, у 1967 — юрфак БДУ (завочна). 36 гадоў аддаў службе ў органах унутраных спраў. Узначальваў УУС Віцебскага аблвыканкома. Першым у рэспубліцы атрымаў званне генерал-лейтэнанта міліцыі. Цяпер у запасе.*

*У 1990 выбраны дэпутатам ВС ад Савецкай выбарчай акругі г. Віцебска. На І-ай сесіі Вярхоўнага Савета XII склікання быў абраны старшынёй Камісіі ВС па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю.*

*З 28 студзеня 1994 г. па 9 студзеня 1996 г. займаў пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь XII склікання.*

*Менавіта М. Грыб стаў беларускім Джэферсонам — падпісаў першую Канстытуцыю суверэннай Рэспублікі Беларусь.*

*Дэпутат ВС XIII склікання. З'яўляецца членам сацыял-дэмакратычнай фракцыі «Саюз працы». Член Камісіі ВС па міжнародных справах. У канцы чэрвеня на аб'яднаўчым з'ездзе ўступіў у Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю.*

*Жанаты. Сын — кандыдат медыцынскіх навук, выкладае ў мінскім мадінстытуце. Дачка вучыцца на 6-м курсе юрфака БДУ. Унуку пайшоў другі год.*

**МЕЧАСЛАЎ Іванавіч, ваш бацька загінуў у час вайны. Відаць, той факт, што чацвёра дзяцей засталіся толькі з маці, наклаў свой адбітак на іх адносіны да жыцця?**

— Мы рана пачалі разумець, што такое праца і наколькі неабходна зарабляць грошы, каб сям'я не галадала. Гэтыя ж абставіны прымушалі нас яшчэ ў юнацтве сур'ёзна задумацца, як не быць абузай для маці. Дарэчы, у многім менавіта таму я і выбраў для паступлення вучылішча МУС — там кармілі, апраналі.

**— І тым не менш зусім відавочна, што выбар першай прыступкі службовай лесвіцы не быў памылкай.**

**Дарэчы, па-вашаму, рух па службе залежыць больш ад удалага збегу акалічнасцей або ад намаганняў і здольнасцей чалавека?**

— Лепш, калі гэтыя два фактары аб'ядноўваюцца. Шчаслівы выпадак таксама меў месца ў маёй кар'еры. Я лічу вялікай удачай той факт, што ў 1985 годзе аператыўна-следчай групе, якую я ўзначальваў, удалося паставіць кропку ў самай шумнай крымінальнай справе 80-х гадоў на Беларусі — віцебскай справе. За дзевяць месяцаў напружанай і складанейшай працы нам удалося ўстанавіць і затрымаць асабліва небяспечнага злачынцу-маньяка Генадзя Міхасевіча, які на працягу 15 гадоў займаўся забойствам жанчын, тэрарызаваў не толькі ўсю вобласць, але і рэспубліку.

**— У друку прамільгнула паведамленне аб тым, што Мечаслаў Грыб напісаў кнігу аб абставінах віцебскай справы. Які лёс рукапісу?**

— Па-першае, як заўсёды, перабольшылі. Кнігу напісаў віцебскі журналіст, праўда, з маёй дапамогай. Матэрыял гатовы працэнтаў на 90, але трэба яшчэ штосьці ўдакладніць, дапрацаваць. І будзем шукаць выдавецтва.

**— Дэмакратычная прэса дала вам наступную характарыстыку: «першы палітык у Рэспубліцы Беларусь, які змог без страт для рэпутацыі змяніць уласны палітычны імідж». Хацелася б пачуць ваш каментарый.**

— Я не зусім згодны з такім сцвярджэннем. Вось кажуць: «Грыб раней быў вельмі жорсткім, а цяпер стаў вельмі мяккім». Прынцыпы маёй работы засталіся ранейшымі: да ўсіх трэба адносіцца ўважліва, з павагай. Асабліва трэба быць цярпімым да іншадумцаў. Але ў кожнай справе павінен быць парадак і адказнасць, асабліва ў прынцыповых пытаннях.

Мяне раней неаднаразова папракалі ў тым, што ў кабінет старшыні заходзіць лідэр апазіцыі Зянон Пазняк. Ледзь не пачалі прыпісваць, што мы з ім нейкую змову рыхтуем. А я тут нічога дрэннага не бачыў, таму што Зянон Станіслававіч быў дэпутатам, а я — Старшынёй ВС, і я абавязаны быў яго прыняць і ўважліва выслухаць. Гэта нармальная з'ява. А калі пануючая ідэалогія не хоча выслухаць іншадумца, яна ад гэтага толькі губляе.

**— Інакш кажучы, вас спачатку не за таго прынялі. Як вы думаеце, чаму?**

— Ды прымаюць па адзенню!

А я прыйшоў з пасады міліцэйскага генерала. Іншых адносін і быць, напэўна, не магло. Гэта потым людзі ўбачылі, што я — не толькі чалавек у форме, але маю яшчэ і ўласную грамадзянскую пазіцыю.

**— Пад вашым старшынствам ВС XII склікання прыняў першую беларускую Канстытуцыю, што яму не ўдавалася да гэтага зрабіць на працягу трох з палавінай гадоў. Гэта, несумненна, вялікі поспех і Вярхоўнага Савета, і ваш асабіста. А што яшчэ вы маглі б назваць сваім буйным дасягненнем за перыяд знаходжання на гэтай пасадзе?**

— Што ўдалося заваяваць давер тых дэпутатаў, якія за мяне не галасавалі пры абранні Старшынёй Вярхоўнага Савета. На працягу двух гадоў да мяне неаднаразова падыходзілі народныя выбраннікі з такой прыкладна фразай: «Выбачайце, я за вас не галасаваў, але вашы паводзіны, ваша стаўленне да праблем мне падабаюцца. Калі б сёння трэба было галасаваць, я прагаласаваў бы за вас». Падыходзілі і левыя, і правыя.

**— На выбарах спікера новага парламента вы таксама вылучаліся ў якасці прэтэндэнта. Што гэта было? Жаданне праверыць, ці трапіць снарад двойчы ў адну і тую ж варонку?**

— Адразу хачу ўдакладніць: вылучаўся не я сам, а вылучала група дэпутатаў. Дарэчы, першы раз, у 94-м, пасля адстаўкі Шушкевіча, я доўга не згаджаўся, але затым мяне пераканалі. А ў другі мне проста захацелася ведаць, які ў мяне рэйтынг сярод дэпутатаў (праўда, калі аб'ектыўна, то мне думаецца, я так і не даведаўся гэтага, таму што многія былі проста звязаны фракцыйнымі абавязацельствамі). У студзені 96-га я выдатна разумеў, што шанцаў у мяне няма: я быў па-за партыямі і па-за фракцыямі.

**— Прагучала прозвішча Шушкевіча — чалавека, якога, па сутнасці, скінулі і якога вамі затым замянілі. Цікава, якія ў вас з ім адносіны?**

— Нармальныя. Ён абсалютна правільна разумее, што не я яго здымаў, не я «падседжваў». Добрыя асабістыя ўзаемаадносіны: мы сустракаемся, размаўляем... Ніякіх пытанняў у мяне да Станіслава Станіслававіча няма. І, наколькі мне вядома, у яго да мяне іх няма таксама.

**— Вам ёсць за што папракнуць сябе за час работы на пасадзе спікера?**

— На жаль, ёсць. Сёння я сказаў бы, што як Старшыня Вярхоўнага Савета я павінен быў настройваць парламент на больш рашучыя дзеянні ў адстойванні канстытуцыйных правоў. Асабліва, калі пачаліся непаразуменне і папрокі з боку кіраўніцтва выканаўчай улады. Цяпер я гэта разумею. Але хачу, каб і мяне таксама зразумелі: я ніколі не хацеў ніякія пытанні даводзіць да канфлікту, да рэзкага абвастрэння. Я стараўся рабіць так, каб прыйсці да згоды. Але, відаць, доўга я ішоў да яе — страты ўсё роўна былі.

**— Вы сказалі «не даводзіць да канфліктаў». Людзі бачылі вашу лаяльнасць да процілеглага пункту гледжання, бачылі яны мяккасць вашых папярэднікаў на пасадзе спікера — Дзямянцея і Шушкевіча. Нававыбраны Старшыня ВС, спадар Шарэцкі, таксама чалавек дастаткова талерантны, памяркоўны. І ў той жа час гэты самы народ на дэмакратычных выбарах часта аддае свае галасы за цвёрдых, а ў нечым нават жорсткіх палітыкаў. І ў нас, і, скажам, у Расіі. Вы не схільныя разглядаць такую тэндэнцыю як псіхалагічную гатоўнасць грамадства зрабіць крок назад?**

— У маім разуменні гэта сапраўды вяртанне ў мінулае. Але ні ў якім разе нельга абвінавачваць у гэтым людзей: яны жылі 70 гадоў пры таталітарным рэжыме, калі ўсё размяркоўвалася, устанаўлівалася, вырашалася за цябе. Склалася пэўная псіхалогія, чаканне гэткага Іллі Мурамца, які замест нас усіх і з пачварай злачыннасці расправіцца, і эканоміку ўзніме, і г. д. Адзін. А гэта ж глыбокая памылка!

**— Але тут паўстае адвечнае пытанне «Што рабіць»? Што рабіць тым людзям, хто разумее ўсю згубнасць і небяспеку такіх адносінаў да жыцця?**

— Проста трэба пастаянна пераконваць, расказваць людзям, паказваць на прыкладах іншых краін, як можна жыць, калі апіраешся перш за ўсё на самога сябе. Што прадпрымальнікі і банкіры — гэта не злодзеі, а дэпутаты — не ворагі народа. Што Беларусь не выйдзе з крызісу, знайшоўшы свой «асаблівы беларускі» шлях. Эканамічныя ж законы аднолькавыя ва ўсім свеце, а наша краіна сваіх не вынайшла і не вынайдзе.

**— Ці існуе ў Мечаслава Грыба асабісты кодэкс гонару — як афіцэра і прафесіянальнага палітыка?**

— Так. Самае галоўнае ў ім — ніколі не крыўдзіць слабых, ніколі не карыстацца сваім службовым становішчам, не злоўжываць ім. Заўсёды лічыць сябе прадстаўніком тых людзей, якія цябе паставілі на гэту пасаду.

Хоць я і быў на самай высокай прыступцы службовай іерархіі, але ніколі не лічыў, што «я — галоўны». Галоўным з'яўляецца народ. А я — слуга народа. Падкрэсліваю: кіраўнік павінен быць цвёрдым у выкананні прынятых рашэнняў, але адначасова і вельмі ўважлівым да людзей.

**— Вы знаёмы з многімі буйнымі палітычнымі дзеячамі — айчыннымі і замежнымі. Скажыце, хто з іх з'яўляецца ў вашых вачах прыкладам служэння сваёй Айчыне?**

— Гельмут Коль. Ён вырашаў для Германіі такія значныя пытанні, якія да яго не вырашаў ніхто. Для мяне гэта таксама П. М. Машэраў, Б. М. Ельцын, Маргарэт Тэтчар, Біл Клінтан.

**— Талейрану прыпісваюць словы: «У палітыцы няма сяброў, ёсць толькі ворагі». Вы згодны?**

— Часткова. У палітыка ёсць сябры, калі ён перамагае. Калі палітык прайграе, то гэтыя «сябры» рассыпаюцца, а іншы раз становяцца ворагамі.

І мяне гэта не мінула — некаторыя выкарысталі як высокапастаўленага сябра; некаторыя ўчора кланяліся, кляліся ледзь не ў адданасці (хоць гэтага і не трэба было), а сёння гатовы выліць на цябе ўвесь бруд. Прыкладаў тут можна прыводзіць многа.

Вядома, гэта страшна непрыемна — памыляцца ў людзях. Крыўдна, калі на цябе ідзе той, для каго ты ўчора рабіў усё... Але гэта жыццё, ад гэтага нікуды не дзенешся.

**— Работа цяперашняга ВС пакідала спачатку вельмі «кіслае» ўражанне. У яго кулуарах з'явілася нават прапанова аб самароспуску... І раптам парламент паказаў, што ён — не дарадчая калегія, а самастойная галіна ўлады. Чаму так адбылося?**

— Ведаеце, я не бачу ў гэтым нічога дзіўнага. Я разглядаю ВС як жывую істоту, якая пройдзе ўсе этапы жыцця — ад маленства да сталасці. У парламент спачатку ж прыйшло многа новых людзей, нехта трапіў туды з дапамогай выканаўчай улады. І асуджаць іх за тое, што яны часам былі да яе занадта лаяльнымі, проста нельга. А адпрацаваўшы пяць месяцаў, агледзеўшыся, патрымаўшы ў руках Канстытуцыю, дэпутаты зразумелі, што да чаго, пачалі задумвацца.

**— Якая, ва-вашаму, «рухаючая і накіроўваючая» роля Шарэцкага?**

— Шарэцкі сёння стараецца рабіць усё, што належыць рабіць Старшыні ВС. Думаю, Сямён Георгіевіч выбраны правільна, я і сам галасаваў за яго.

Вясной, калі быў арганізаваны збор подпісаў за адкліканне Шарэцкага з яго пасады, я адмежаваўся ад гэтага. Я, напрыклад, сёння не зайздрошчу свайму пераемніку. Думаю, наадварот, ён мне зайздросціць. Калі я працаваў у гэтай якасці, то кожную раніцу казаў жонцы: «Іду як на перадавую». Цяжкая работа, нервовая.

**— У псіхалагічным плане гэта быў самы цяжкі ў вашым жыцці перыяд?**

— Ён і яшчэ адзін. Першы — калі мы, нарэшце, выкрылі віцебскага маньяка, і ён пачаў расказваць, якія злачынствы ўчыніў. А за гэтыя зверствы былі раней асуджаны 13 чалавек на тэрміны ад 10 да 15 гадоў, а адзін нават быў расстраляны. Расстраляны за тое, чаго не рабіў. Усе памылкі праваахоўных органаў Віцебска, дапушчаныя на працягу дзесяцігоддзя, чорнай плямай кладліся на рэпутацыю маёй групы. Перажыўшы такое, я на дух не ўспрымаю парушэнняў законнасці.

Другі — так, работа спікерам. І асабліва той момант, калі фракцыя БНФ аб'явіла галадоўку, а яе сілавымі метадамі падавілі.

**— З вышыні пражытых гадоў і палітычнага вопыту экс-спікер бачыць сёння шляхі да грамадскай згоды ў Беларусі?**

— Упэўнены, гэтага можна дасягнуць. Але толькі, калі грамадства і кіраўніцтва нашай краіны стане на шлях няўхільнага (!) выканання Канстытуцыі і законаў. Трэба забыць усю тую злосць, якая была ўчора — у будучым яна нікому не дапаможа. Галінам улады трэба прыйсці на перагаворы з чыстым сэрцам: і вы вінаватыя, і мы вінаватыя — давайце жыць па-новаму. Прыйсці, нарэшце, да рэформаў, якія ў нас замарожаны, даць свабоду прадпрымальніцтву. Людзі хутчэй знойдуць выхад, чым хтосьці гэта зробіць за іх. І я ўпэўнены, што ўсё тады пойдзе ў нас па-іншаму.

**— «Мне здаецца, усякі, хто ў здаровым розуме, заўсёды імкнецца быць каля таго, хто лепш за яго самога», — гаварыў філосаф Платон. Каля каго імкнецца быць Мечаслаў Грыб?**

— Імкнуся быць бліжэй да простых людзей. Яны сілкуюць розум, маральнасць. Стараюся быць бліжэй да дэпутатаў, я ж нешта ведаю, нешта ўмею і магу дапамагчы. Мае дзверы адчынены для любога з іх.

**— З крыніц, якія заслугоўваюць давер'я, вядома, што экс-спікер Грыб пазбаўлены дзяржаўнай дачы, машыны і нават аховы.**

— Не толькі экс-спікер. Згодна з новым законам, ахова і дзярждача не прадугледжаны для былых прэзідэнтаў, спікераў і прэм'ераў Беларусі. Машына для аказання паслуг прадугледжана, але гэта не выконваецца. А пастаянна звяртаць на гэта чыюсьці ўвагу — ніжэй за маю годнасць. У нас машынай тэарэтычна маюць права карыстацца і Кебіч, і Шушкевіч, і Іван Яўцеевіч Палякоў... Чалавек 7-8 набярэцца. Можна было б выдзеліць дзве якія-небудзь дзяжурныя машыны, але не ідуць на гэта. Можа таму, што самі яшчэ маладыя, і пакуль што не бачаць сябе ў ролі «былых».

Гэта таксама паказчык культуры цяперашняй улады. І яшчэ: як ты адносішся да «былых», так будуць адносіцца з цягам часу і да цябе.

**— У адным з вашых выступленняў аднойчы прагучала фраза, якая пераклікаецца са сказаным вышэй. Гучала яна так: «Усе мы з былых, але глядзець трэба наперад». Дык што чакае нас там, наперадзе?**

— Наперадзе нас павінна чакаць добрая, разумная будучыня, дэмакратыя, прававая дзяржава. У будучым я бачу толькі нармальную, працаздольную, заможную рэспубліку.

Беларусы гэтага заслугоўваюць.

**Распытваў Цімур КУДЗЕЯР.**

## Ці будуць падоўжаны тэрміны выдачы чэкаў «Маёмасць»?

**Чуткі аб змяненні тэрмінаў налічэння і выдачы прыватызацыйных чэкаў хадзілі сярод насельніцтва ўжо даўно. Яны дасягнулі свайго эпагею, калі першага ліпеня гэтага года канчаткова скончыўся тэрмін выдачы маёмасных каштоўных папер. Літаральна праз некалькі дзён пасля гадзіны «пік» некаторыя СМІ ў катэгарычнай форме аб'явілі аб тым, што «ў адпаведнасці з рашэннем парламента тэрмін налічэння чэкаў падаўжаецца да 1 студзеня 1997 года, а канчатковы тэрмін іх выдачы — да 1 чэрвеня таго ж года».**

Як растлумачылі карэспандэнту «Звязды» ва ўпраўленні чэкавай прыватызацыі Міндзяржмаёмасці, аб прынятай пастанове ВС у міністэрстве не ведаюць. Са слоў спецыялістаў упраўлення, размова можа ісці толькі аб праекце пастановы, які цяпер знаходзіцца на стадыі разгляду. Тут жа было заяўлена, што Міндзяржмаёмасць мае свой пункт гледжання па гэтаму пытанню, які адрозніваецца ад Вярхоўнага Савета. З верагоднасцю можна сцвярджаць тое, што Міндзяржмаёмасць цяпер не мае на руках афіцыйных папер аб падаўжэнні тэрмінаў налічэння і выдачы чэкаў і кіруецца ў сваёй рабоце дакументам аб тым, што выдача сертыфікатаў закончылася 1 ліпеня 1996 года.

Напомнім, што паводле даных Міндзяржмаёмасці на 1.07.1996 года сертыфікаты чэкаў атрымалі 52% грамадзян рэспублікі, з ліку тых хто меў на гэта права. Колькасць грамадзян з налічанымі ІПЧ (па спісах, зацверджаных мясцовымі Саветамі) складае 73,8 працэнта. На думку намесніка начальніка ўпраўлення чэкавай прыватызацыі міністэрства Мікалая Круцко, менавіта гэтая колькасць грамадзян і можа рэальна прэтэндаваць на атрыманне ўказаных сертыфікатаў. Пакуль жа да прыняцця адпаведнага рашэння выдача сертыфікатаў прыпынена з пачатку ліпеня бягучага года.

**Сяргей КУРКАЧ.**

***КРЫК ДУШЫ***

## «Апошнія шэсць тысяч патраціла на тэлефонны званок у «Звязду»

*«Звоняць вам з 196-га прафтэхвучылішча, што ў Лідзе. Дапамажыце атрымаць зарплату! Адправілі нас у адпачынак без адпускных. Апошнія шэсць тысяч страціла на тое, каб пазваніць вам. Спрабавала ў прыёмную Прэзідэнта, але нешта не дазванілася. Памром з голаду».*

***(З тэлефоннага званка ў рэдакцыю 3 ліпеня).***

**Карэспандэнт «Звязды» папрасіў каментарыяў у намесніка загадчыка бюджэтнага аддзела фінансавага ўпраўлення Гродзенскага аблвыканкома Наталлі РОМАН (менавіта гэтае ўпраўленне фінансуе сістэму прафтэхадукацыі).**

— Для мяне — поўная нечаканасць, — здзівілася Наталля Рыгораўна. — Па стану на 1 ліпеня ў нас у вобласці няма запазычанасці па зарплаце. Мы аплацілі людзям і зарплату, і адпачынкі. Іншая справа, што калі адпускныя былі налічаны за тры месяцы, то мы пакуль што аплацілі за адзін. (Праўда, у асобных раёнах змаглі «закрыць» усе тры адразу. Але не ва ўсіх). Астатнія грошы (за астатнія месяцы) выплацім на гэтым тыдні.

— Не думаю, што ў Лідзе адбылася нейкая накладка, але на ўсякі выпадак праверу, — запэўніла нас Н. Роман.

Да вучылішча дазваніцца не ўдалося, усё ж лета, таму спадзяёмся на тое, што Наталля Рыгораўна сапраўды зробіць тое, што абяцала. І што супрацоўнікі прафтэхвучылішча будуць з грашамі.

**У. БЯРЭЗІН.**

## На сёння сітуацыя з выпускам падручнікаў нагадвае крытычную

**Што б ні казалі, але асновай любога навучання заўсёды была кніга. Таму зараз, калі да 1 верасня застаецца не так шмат часу, пытанне аб школьных падручніках зноў становіцца актуальным. Пракаменціраваць гэту сітуацыю наш карэспандэнт папрасіў намесніка міністра адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь, доктара педагагічных навук, прафесара Уладзміра Фёдаравіча ВАЛАДЗЬКО:**

— Перш-наперш варта нагадаць, што з 1993 года ў рэспубліцы адбываецца працэс паступовага пераходу на новы змест адукацыі. Але навізна праграм, а таксама парушэнне механізмаў пастаўкі падручнікаў з Расіі — традыцыйнай базы вучэбнага кнігавыдання ўсяго колішняга СССР — выклікалі неабходнасць ствараць уласныя падручнікі практычна па ўсіх прадметах. Дарэчы, сёння над гэтым працуе 91 аўтарскі калектыў, а ўсяго з 1993 года такіх калектываў было 250. З таго часу яны былі істотна абноўлены, да работы падключыліся амаль усе вядучыя навукоўцы і педагогі Беларусі, таму ўжо зараз можна весці гаворку аб станоўчых выніках. Напрыклад, амаль цалкам задаволены патрэбнасці ў новых падручніках пачатковай школы, распрацоўваюцца яны для дзяцей з асаблівасцямі псіха-фізічнага развіцця, таленавітых дзяцей, для дзяцей, што належаць да нацыянальных меншасцей. Вядзецца праца па стварэнню падручнікаў па прадметах матэматычнага, прыродазнаўчага цыклаў, па замежных мовах. Але гэта справа не аднаго дня і стварэнне нават эксперыментальнага падручніка па пералічаных дысцыплінах патрабуе не менш як 4-5 гадоў руплівай працы. Таму значную частку падручнікаў і дапаможнікаў мы па-ранейшаму закупляем за мяжой, перш за ўсё, у Расіі. У бліжэйшы час іх імпарт будзе істотна скарачацца.

**— Але, Уладзімір Фёдаравіч, хацелася б мець больш-менш дакладнае ўяўленне: што чакае нашых школьнікаў ужо сёлета?**

— Дзяржзаказ на 1996/1997 навучальны год складае 226 назваў падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў агульным тыражом 19.796.470 экземпляраў, а з улікам дадруку падручнікаў, неабходных для 1-х класаў, — 20.314.470 экземпляраў. Па стану на 1 ліпеня 1996 года выдадзена 130 назваў тыражом больш дзесяці з паловай мільёнаў экземпляраў, альбо 58 працэнтаў ад неабходнага. У стадыі вытворчасці знаходзяцца 84 назвы падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў, прычым 12 з іх ужо паступілі ў друк, а яшчэ на 4 ёсць арыгінал-макеты.

На жаль, апошнім часам працэсы вучэбнага кнігавыдання сутыкаюцца з сур'ёзнымі праблемамі, і галоўная з іх — недастатковае фінансаванне. У выніку, з восені 1995 года сітуацыя з аплатай за падрыхтоўку, выданне і набыццё падручнікаў, без перабольшання, стала крытычнай.

Так, на 1996 года Міністэрствам фінансаў выдаткавана ўсяго 117 млрд. 89 млн. рублёў, у той час як на выкананне дзяржзаказу патрэбны ўсе 265,4 млрд., з якіх 57,5 млрд. на закупку падручнікаў у Расіі і 207,9 млрд. — на выданне ў нашай краіне. Атрымалася, што ўжо на сёння доўг сістэмы адукацыі выдавецтвам і кнігагандлёвым арганізацыям склаў 50 млрд. 590 млн. рублёў. У сувязі з гэтым вытворчасць часткі падручнікаў перапынена, а іх своечасовае паступленне ў школу пастаўлена пад пагрозу.

**— У такім разе, дзе выйсце?**

— Пэўныя крокі ў гэтым накірунку намі ўжо зроблены, але відавочна: Міністэрству адукацыі і навукі патрэбна падтрымка іншых ведамстваў і перш-наперш — Мінфіна. Разам з тым хочацца верыць, што ў бліжэйшы час гэтыя праблемы ўдасца вырашыць і што сёлета падарожжа школьнікаў па «краіне ведаў» не будзе азмрочана.

**Сяргей ГРЫБ.**

***І ТАКОЕ БЫВАЕ...***

## З гармонікам... з таго свету

**У перапоўненым прыгарадным аўтобусе, які ішоў з Баранавіч у вёску Бараціна, давялося стаць міжвольным сведкам дарожнай размовы жанчын.**

— У нас, у Ляхавіцкім раёне, у суседняй з нашай вёсцы — гаварыла адна, — адбыўся проста неверагодны выпадак. Аднойчы зімой малады хлопец, ва ўсім наваколлі лепшы гарманіст, не прадчуваючы нічога дрэннага, лёг увечары спаць. А маці (яны жылі ўдваіх), выпаліўшы печку, пайшла «на хвілінку» да суседкі. А раніцай сын не прачнуўся. Людзі гаварылі, што ўчадзеў з-за рана зачыненага коміна.

Хавалі хлопца ўсёй вёскай. Па хрысціянскаму звычаю, памянулі нябожчыка за сталом і разышліся па хатах. А маці легла спаць.

І раптам — стук у акно. Глянула яна — і самлела. За акном стаяў яе любімы Васечка... з гармонікам у руках і пасівелай галавой.

— А адбылося вось што, — працягвала жанчына свой незвычайны расказ. — На агульную думку вяскоўцаў, у труну Васілю паклалі яго неразлучнага спадарожніка — галасісты гармонік, каб весялей было на тым свеце. Толькі не маглі змірыцца яго два закадычныя сябры з тым, што іх вёска застанецца без гармоніка. І яны вырашылі ўвечары, каб ніхто не ўбачыў, раскапаць магілу і выцягнуць яго з труны.

Вырашана — зроблена. А калі адкрылі труну, убачылі, што Васіль ляжаў перавернуты. Зямля, кажуць, адцягвае чад — вось ён і ажыў. Але з-за недахопу паветра зноў стаў канаць. І тут паспелі яго сябры...

— Праз год ці два пасля выпадку з гарманістам, — стала ўспамінаць ляхавіцкая пасажырка, — у нас адзін аматар выпіць так набраўся на вяселлі, што непрытомным зваліўся ў цёмным куце каморкі між сцяной і скрыняй. А калі ачомаўся, яму падалося, што ляжыць у труне — так быў заціснуты з усіх бакоў. Са страху заенчыў што было моцы: «Хутчэй адчыніце труну!!!» Калі людзі, што збегліся, зразумелі, у чым справа, смеху было на ўсю вёску...

Не ведаю, якія яшчэ цікавыя гісторыі ўспомнілі пасажыры таго аўтобуснага маршрута: мне трэба было выходзіць на сваім прыпынку.

**Міхаіл ЖУКАЎ.**

*г. Баранавічы.*

## РАСПАРАДЖЭННЕ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 203 РП

### Аб неадкладных мерах па забеспячэнню ўборкі ўраджаю 1996 года

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

у Віцебскай вобласці — Петрашкевічам Міхаілам Іванавічам, намеснікам міністра сельскай гаспадаркі і харчавання;

у Гомельскай вобласці — Мінько Францам Францавічам, намеснікам міністра сельскай гаспадаркі і харчавання;

у Гродзенскай вобласці — Руцкім Дзмітрыем Дзмітрыевічам, першым намеснікам міністра сельскай гаспадаркі і харчавання;

у Мінскай вобласці — Гаркуном Уладзімірам Гіяравічам, намеснікам прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь;

у Магілёўскай вобласці — Шаколам Іванам Пятровічам, намеснікам міністра сельскай гаспадаркі і харчавання.

3. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнаму банку вырашыць пытанне аб выдзяленні фінансавых сродкаў для забеспячэння своечасовых разлікаў за збожжа ўраджаю 1996 года, што закупляецца для дзяржаўных патрэб.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

4 ліпеня 1996 г., г. Мінск.

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 243

### Аб устанаўленні свята — Дня работнікаў лёгкай прамысловасці

Устанавіць у Рэспубліцы Беларусь свята — Дзень работнікаў лёгкай прамысловасці і кожны год адзначаць яго ў другую нядзелю чэрвеня.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

5 ліпеня 1996 г., г. Мінск.

***АФІЦЫЙНА***

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

### Аб унясенні дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Унесці ў Закон Рэспублікі Беларусь ад 13 студзеня 1995 года «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 12, арт. 121) наступныя дапаўненні:

1. У артыкуле 1:

частку другую пасля слова «выданне» дапоўніць словам «тэлерадыёарганізацыя»;

пасля часткі трэцяй дапоўніць новымі часткамі наступнага зместу:

«Пад дзяржаўнымі рэспубліканскімі тэлерадыёарганізацыямі маюцца на ўвазе дзяржаўныя тэлерадыёарганізацыі, заснавальнікамі якіх выступаюць рэспубліканскія органы дзяржаўнай улады і кіравання.

Пад дзяржаўнымі мясцовымі тэлерадыёарганізацыямі маюцца на ўвазе абласныя тэлерадыёарганізацыі (аб'яднанні), гарадскія і раённыя радыёрэдакцыі, заснавальнікамі якіх выступаюць органы дзяржаўнай улады і кіравання»;

часткі чацвёртую—восьмую лічыць адпаведна часткамі шостай—дзесятай.

2. Пасля раздзела III «Распаўсюджванне масавай інфармацыі» дапоўніць закон раздзелам $III^1$ наступнага зместу:

**«РАЗДЗЕЛ $III^1$. Аб парадку асвятлення дзейнасці вышэйшых органаў дзяржаўнай улады ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі**

**Артыкул $31^1$.** Абавязковыя інфармацыйныя праграмы ў сродках масавай інфармацыі

Дзяржаўныя рэспубліканскія тэлерадыёарганізацыі павінны падрыхтаваць і забяспечыць распаўсюджванне наступных абавязковых тэле- і радыёпраграм у поўным аб'ёме ў зручны для тэлегледачоў і радыёслухачоў час, але не пазней чым праз 24 гадзіны пасля адбыўшыхся адпаведных падзей:

зваротаў і заяў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь, Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь;

урачыстай цырымоніі заступлення на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь;

адкрыцця першага пасяджэння Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь новага склікання;

адкрыцця першага пасяджэння новага Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Рэспубліканскія і абласныя перыядычныя друкаваныя выданні (газеты), заснавальнікамі якіх выступаюць органы дзяржаўнай улады і кіравання, абавязаны апублікаваць указаныя вышэй звароты, заявы, а таксама прадстаўленыя Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Вярхоўнаму Савету даклады аб становішчы дзяржавы, інфармацыі аб рэалізацыі ўнутранай і знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь, паведамленні аб праграме дзейнасці Кабінета Міністраў, пасланні Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь у бліжэйшых нумарах.

**Артыкул $31^2$.** Інфармацыйныя тэле- і радыёпраграмы

Дзяржаўныя рэспубліканскія тэлерадыёарганізацыі ўключаюць у інфармацыйныя праграмы ў дзень, калі адбылася адпаведная падзея, паведамленне аб рашэннях і дзеяннях:

Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, прадугледжаных пунктамі 4—9 і 18 артыкула 100, артыкуламі 101 і 103 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь;

Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, прадугледжаных артыкулам 81, пунктамі 1—7, 9, 13 і 15 артыкула 83, артыкуламі 85, 104 і 105 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь;

Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь, прадугледжаных артыкулам 127 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

У інфармацыйныя праграмы дня, калі адбылася адпаведная падзея, у абавязковым парадку ўключаюцца паведамленні аб:

заявах і зваротах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь, Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь;

выступленнях Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь, старшыні Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь на пасяджэннях Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь;

прэс-канферэнцыях Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь;

іншых грамадска значных фактах дзейнасці рэспубліканскіх органаў дзяржаўнай улады, аб якіх было паведамленне прэс-службамі дзяржаўных органаў улады не менш чым за 12 гадзін.

Дзяржаўныя рэспубліканскія тэлерадыёарганізацыі павінны забяспечваць аператыўнае інфармаванне тэлегледачоў і радыёслухачоў аб афіцыйных візітах кіраўнікоў замежных дзяржаў або ўрадаў у Рэспубліку Беларусь, а таксама аб афіцыйных візітах за мяжу Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, дэлегацый Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул $31^3$.** Інфармацыйна-асветніцкія праграмы

Дзяржаўныя рэспубліканскія тэлерадыёарганізацыі абавязаны штотыднёва выпускаць у эфір па каналу рэспубліканскага тэлебачання і першай праграме рэспубліканскага радыё ў зручны для тэлегледачоў і радыёслухачоў час аглядныя інфармацыйна-асветніцкія праграмы працягласцю не менш 45 хвілін аб рабоце Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, яго пастаянных камісій, дэпутацкіх фракцый, аб умацаванні беларускай дзяржаўнасці, змесце і прымяненні асноўных палажэнняў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, законаў і іншых прававых актаў, якія прымаюцца ў Рэспубліцы Беларусь. Парадак і аб'ём трансляцыі вызначаюцца рэдакцыяй сумесна з рэдакцыйнай камісіяй сесіі з улікам патрабаванняў пастановы Вярхоўнага Савета аб асвятленні яго пасяджэнняў.

**Артыкул $31^4$.** Выступленні па тэлебачанню і радыё Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь

Дзяржаўныя рэспубліканскія тэлерадыёарганізацыі павінны прадастаўляць магчымасць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, прэм'ер-міністру Рэспублікі Беларусь для выступлення па рэспубліканскаму тэлебачанню і радыё ў любы час у прамым эфіры або па папярэдняму запісу па іх жаданню. Працягласць выступлення не абмяжоўваецца. Аб часе выступлення тэлегледачам і радыёслухачам паведамляецца загадзя.

**Артыкул $31^5$.** Выступленні па тэлебачанню і радыё прадстаўнікоў дэпутацкіх фракцый Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

Дзяржаўныя рэспубліканскія тэлерадыёарганізацыі павінны не радзей аднаго разу ў месяц прадастаўляць магчымасць для выступленняў ці дэбатаў прадстаўнікам дэпутацкіх фракцый Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Працягласць кожнай тэле-, радыёпраграмы павінна быць не менш 30 хвілін. Па просьбе дэпутатаў перадача можа быць ажыццёўлена без папярэдняга запісу (у прамым эфіры).

**Артыкул $31^6$.** Выступленні дэпутатаў Вярхоўнага Савета ў дзяржаўных мясцовых тэлерадыёарганізацыях

Дзяржаўныя мясцовыя тэлерадыёарганізацыі абавязаны па просьбе дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прадастаўляць яму магчымасць для выступлення перад сваімі выбаршчыкамі не радзей аднаго разу ў тры месяцы па тэлепраграме і аднаго разу ў месяц па радыёпраграме з улікам размяшчэння яго выбарчай акругі.

Пісьмовая просьба аб выступленні павінна быць пададзена не пазней чым за два тыдні да дня выхаду ў эфір.

Па патрабаванню дэпутата перадача можа быць ажыццёўлена без папярэдняга запісу (у прамым эфіры). У адной праграме можа ўдзельнічаць некалькі дэпутатаў. Для выступлення кожнаму з удзельнікаў праграмы павінна быць прадастаўлена не менш сямі хвілін. Аб часе перадачы тэлегледачам і радыёслухачам павінна быць паведамлена загадзя.

**Артыкул $31^7$.** Асвятленне дзейнасці органаў дзяржаўнай улады ў іншых тэле- і радыёпраграмах

Дзяржаўныя рэспубліканскія і мясцовыя тэлерадыёарганізацыі пры фарміраванні праграмнай палітыкі прадугледжваюць у іншых публіцыстычных і інфармацыйна-аналітычных праграмах усебаковае і аб'ектыўнае інфармаванне тэлегледачоў і радыёслухачоў аб дзейнасці Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, судоў і іншых органаў дзяржаўнай улады».

3. У артыкуле 36:

у частцы першай пасля слова «ўстанова» дапоўніць словамі «прадпрыемства, дзяржаўны орган»;

у частцы трэцяй пасля слова «ўстанова» дапоўніць словамі «прадпрыемства, дзяржаўны орган», а пасля слоў «звесткі, што» дапоўніць словамі «не адпавядаюць рэчаіснасці або».

4. У частцы пятай артыкула 37 пасля слова «ўстановы» дапоўніць словамі «прадпрыемствы, дзяржаўныя органы».

II. Гэты закон увесці ў дзеянне з дня апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

7 чэрвеня 1996 г., г. Мінск. № 438-XIII

Закон лічыцца падпісаным згодна з п. 20 артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і артыкулам 51 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь» і ўступае ў дзеянне ў адпаведнасці з яго зместам

## ПАСТАНОВА

### Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Аб паўторным абмеркаванні і галасаванні Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі»**

Паўторна абмеркаваўшы ў адпаведнасці з пунктам 20 артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь вернуты Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Закон Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі», прыняты 7 чэрвеня 1996 года, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Пацвердзіць рашэнне Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 7 чэрвеня 1996 года аб прыняцці Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі».

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ**

26 чэрвеня 1996 г., г. Мінск. № 402-XIII

## Уладзімір НЯКЛЯЕЎ:

# «Калі ты званар, ці калі ты паэт, жыві на званіцы»



**— Уладзімір Пракопавіч, найперш удакладніце, калі ўсё ж вы нарадзіліся. У даведніках пазначана, што 11 ліпеня, у вашай кнізе «Адкрыццё», што 9-га, а газета «Імя» сцвярджае, што 17-га...**

— Пры ўсёй павазе да даведнікаў, да газеты «Імя» і нават да ўласнага пашпарту я не мог нарадзіцца ні ў які іншы дзень, апроч 9 ліпеня. А гуляць можна ў любы.

**— Да свайго юбілею вы падышлі з новай кнігай вершаў і паэм «Прошча». Гэта проста чарговая, ці ў нечым выніковая кніга?**

— Не падыходзіў я да юбілею, ён сам прыйшоў... У пэўным сэнсе кожная кніга для паэта выніковая. Хаця б таму, што можа стацца апошняй. Як сталася яно ў Анатоля Сербантовіча, Уладзіміра Лісіцына, яшчэ шмат у каго. «Прошча», безумоўна, нешта падсумоўвае, я акумуляваў у ёй істотныя для мяне рэчы.

**— У тым ліку і:**

***Няхай на зямлі хоць патоп,***
***хоць пажар,***
***Хоць ліха ды войны,***
***Калі ты паэт, ці калі ты званар,***
***Ты лішні, ты вольны?***

— Так, і без пытальніка. Толькі не трэба гэта чытаць літара ў літару.

**— А як такое чытаць, тым больш чытаць сёння?**

— Не ведаю. Як хто здольны. Наогул усё залежыць ад таго, хто чытае, а не ад таго, хто піша. Бо ніхто не піша. Я не аўтар паэм «Прошча», «Індыя», «Саракавіны», а толькі першы іх чытач, яны першаму мне прадыктаваныя. Раней, калі я думаў, напрыклад, што пішу паэму «Маланка», дык, можа, цьмяна адчуваў, што не я пішу, а зараз дакладна ведаю, што не я. Дзеля аднаго гэтага варта было пражыць паўвека.

**— Я нібыта разумею, пра што вы кажаце, але няўжо гэта ўсё, што адбылося ў вас за пяцьдзесят гадоў?**

— Ну чаму ўсё... Я існаваў яшчэ і ў іншых, як сказаў бы Алесь Разанаў, каардынатах. Кахаў, вар'яцеў, біўся, здарожваўся, песні складаў, часопісы адкрываў... Шмат чаго было.

**— Тады давайце пра песні і пра часопісы згадаем... Прабачце, можа, некарэктнасць, але гэта такое, я б сказала, агульнае меркаванне: неяк не дапасоўваюцца ў свядомасці, не стыкуюцца адзін з адным Някляеў-паэт, аўтар «Знака аховы», той жа «Прошчы», рэдактар такога часопіса, як цяперашняя «Крыніца», і Някляеў-песеннік, аўтар соцень песень, дзесяткаў шлягераў, што тры гадзіны гучалі нядаўна на вашым аўтарскім канцэрце ў Маладзечна. Можа быць, вас двое Някляевых — і аднаго вы некуды хаваеце? Няма тут у вас праблемы?**

— «Агульнае меркаванне» — не мая праблема. З гэтым, як і наогул з усім ацэначным, ніколі ў мяне і ніякіх праблем не было. Ці хвалілі мяне за нешта, ці крытыкавалі, я не надта зважаў, бо сам пра сябе ведаў, чаго і што вартае. Схільнасці ж да самазавышанай вартасці я, дайце веры, не меў і не маю.

Ёсць невялікае кола людзей, ну, скажам, тых, што працуюць са мной у «Крыніцы» ды яшчэ трое—чацвёра, асабістая думка якіх для мяне істотная. Адзін з іх сказаў мне пасля канцэрта ў Маладзечна: наладзіўшы фэст, свята, ці не падумаў ты пра тое, што сам сябе засланяеш сваімі песнямі? Каб такое нехта збоку сказаў, я б плюнуў і пайшоў, а тут сказаў чалавек не збоку. Гэта стала адной з прычын, па якой я, падумаўшы, адмовіўся ад прапанаванага мне аўтарскага канцэрта ў Віцебску на «Славянскім базары», хоць і ўдзячны быў за прапанову, і па слабасці мог згадзіцца.

**— Цяжка ўсё ж паверыць, што вы раўнадушна чытаеце рэцэнзіі на тое, што вамі напісана, ці, як сцвярджаеце, вам прадыктавана.**

— Цяжка — дык не верце, нашто ж ствараць для сябе лішнія цяжкасці. Але яно сапраўды так. Я трываць не магу, калі збіраецца купка абэлтусаў ад прыгожага пісьменства і пачынаецца: я геній, я геній, я напісаў, пра мяне напісалі... Ты ў люстэрка зірні, які ты геній, губы ад сала вытры.

З таго, што вы называеце рэцэнзіямі, цікавіць могуць толькі фантазіі на тэму, арыгінальны тэкст паводле тэксту. Гэта той жа акт творчасці, але крытыкаў-творцаў, што здольныя на такое, у нас адзінкі. Найчасцей, на жаль, да гэтай пары чытаеш аб тым, як «у сваім творы аўтар выявіў...»

**— Прабачце, але вы разважаеце так, нібы літаратура ў нас і сёння нешта важыць, на штосьці ўплывае. Але ж аб'ектыўна: дзе яна, беларуская літаратура? Каму яна патрэбная? Я нешта не бачыла, каб у метро чыталі «Крыніцу», у якой, мяркуючы па вашых ранейшых выказваннях, друкуецца лепшае з таго, што пішацца. Гэта раней толькі і чуваць было: мы ганарымся Купалам, мы ганарымся Танкам, мы ганарымся Куляшовым, мы ганарымся Мележам... А зараз што, у чым гонар?**

— Вы дарма спрабуеце мяне раззлаваць, я столькі разоў чуў такое, што ўжо смешна злавацца.

Мой гонар — нацыянальная беларуская літаратура. Хаця б таму, што нідзе і ні ў чым няма ў нас больш высокіх дасягненняў духу. Толькі ў літаратуры пакуль што — праз таго ж Купалу, Коласа, Багдановіча, Чорнага, Мележа, Танка, Куляшова, Караткевіча, Стральцова, Быкава, Барадуліна — мы выявіліся неяк перад людзьмі і перад Богам як нацыя, як народ.

Ну давайце жыць без літаратуры, лічыць, што яе няма. Што наогул няма ніякага беларускага мастацтва, як непатрэбнага. Тады з чым ісці ў свет, тады ў чым мы ёсць? З трактарам «Беларусь» ісці, які раней называўся «Фордам»? У тэлевізары «Гарызонт» мы ёсць, які намагаецца стаць «Філіпсам»? Толькі дух наш, прабачце тэрміналогію, канкурэнтаздольны, а дух наш у мастацтве, найперш у слове, бо мы — паўтару ўжо не аднойчы сказанае — вербальная нацыя, нацыя слова. Што ж мы за ворагі самі сабе такія, якім без патрэбы сваё, святое, сакральнае, на чым усё людства ва ўсім свеце адно толькі і трымаецца? Ведалі б вы, як праз такія пытанні, праз цямрэчную безвыходнасць іх душа раптам раз — і ў попел згарае, пылам па ветры гоніцца...

**— Прабачце і паверце, што ў мяне таксама... Гэта ж я так спыталася, каб пагаварыць. Бо страшнавата вы ў адным з вершаў пра Беларусь напісалі:**

***І праўда, што на Божым дрэве***
***Ад дзічкі прыжылася ты.***

— Гэта зусім не сцвярджэнне, там знак пытальніка ў канцы.

**Гутарыла Наталля ФЯДОТАВА.**

---

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

### НАСЦЕЖ

Зрэшты, жыццё як жыццё.
Варта было нарадзіцца.
Падае светла лісцё.
Ціха крыніца бруіцца.

Сінія градзіны сліў,
Ветразь на чоўне рыбачым, — .
Хто не народжаны быў,
Той аніколі не ўбачыць.

Радуйся! Зорныя дзверцы
Насцеж — табе аднаму.
Зрэшты, не страшна памерці.
Незразумела, чаму.

### ІДАЛ

«На, — ён сказаў. — Павер — і не памрэш.
Мяне і род мой ты перажывеш».

І я яму паверыў. Напавер
Злізаў атруту з далані, як звер.

«Не бойся, — ён шаптаў, — не бойся, не...»
Памерці даў — і ўваскрасіў мяне.

І з той пары дапытваць стаў: чаму
Паверыў не сабе я, а яму?

Штодня, штоночы, дзе б мы ні былі,
Вымучваў ён мяне: а што б, калі...

«Не! — я крычаў. — Ты Богам быў маім!»
І ўсё страшней было мне побач з ім.

І ўстаў адчай між намі, як сцяна.
Тады ён зноў сказаў аднойчы: «На...»

◆ Для мужчыны няма прычын,
Каб маркоціцца...
Мы стаім з табой
Пад гарой, з якой
З громам-грукатам
Камень коціцца.

Лёс — ні ўцяць
ні ўзяць.
Скалане?.. Міне?..
Да якой з табой
Нам стаяць пары —
Не табе гадаць
І не мне гадаць,
А гадаць гары
Разам з каменем.

◆ Прабачаць дурню. І даруюць кату.
Ахвяры злічаць. Пабудуюць храм.
Ды не даруюць мне. Суседу. Брату.

За тыя сны, якія сняцца нам.
За казкі, што страшней за сны. За яву —
Жудзейшую за казкі і за сны.

Сусед і брат не ведаюць віны.
Нібы не мы, нібыта не яны —
Народ, што прамаўчаў сваю дзяржаву.

---

*НЕ ДЛЯ ДРУКУ*

# НАЧНОЕ

Ёсць думкі начныя і думкі ранішнія. Ноччу, за гадзіну да таго, як заплюшчацца вочы, думаеш раскавана і без нейкіх маральных абмежаванняў. Я думаю, гэта не выпадкова. Дзень і ноч. Мяжа. Дзень пражыты. Новы не наступіў. Між імі — ноч. Як бы нейтральная паласа. Мёртвы абшар, куды не залятаюць кулі... Можна паляжаць, аддыхацца, і дакладна ведаеш: ніхто за табой не назірае. Можна думаць свабодна. Пра свет. Пра людзей. Пра сябе.

Думкі ранішнія ёсць цэнзар думак начных. Уласна, і рубрыка прыдумалася з гэтай нагоды. Яна, канешне, хітрая. Для чалавека пішучага — усё для друку. Інакш няма сэнсу. Трэба мяняць прафесію. Асобны від прастытуцыі — духоўны. Прастытуцыя і ў сэнсе аголенасці, публічнасці. Тое, што іншыя хаваюць, для нас з'яўляецца не больш чым фактычным матэрыялам. А інакай не паверыць. Жорсткая прафесія. Праклятая прафесія.

Тады навошта ты пішаш? А навошта салавей спявае? Навошта рыба ідзе на нераст?

Шоу павінна працягвацца...

❑

Якая жыццёвая, канечная мэта жанчыны? Звіць гняздо. Выседзець яйкі. Вырасціць птушанят. Але для гэтага патрэбен — самец. Асоба іншага полу. Можа і не асоба, проста істота, прыстасаваная прыродай для працягу роду. Для строга вызначанай функцыі.

Так, канешне, духоўная сумяшчальнасць, розныя праблемы маральнага характару — тое, што называецца адносінамі двух людзей.

Але ў канцы — што? Калі адкінуць лёгкае шалупінне так званай культурнасці?

Толькі гэта, толькі гэта... Звіць гняздо і г. д.

❑

Большасць не задае сабе ніякіх такіх «вечных» пытанняў. Гэтым займаецца нейкая сярэдняя і вельмі малалікая плыня. Яна стварае культуру. Але — для каго?

У гэтай сярэдняй плыні ёсць яшчэ больш малакалькасная група. Яна рашае толькі і ўласна «вечныя» пытанні. Скажам, Хейлі ці Дацэнка (аўтара кніжак пра «Бешанага») да гэтай групы далучыць нельга. У іх — прафесія: за год выдаць, дапусцім, адзін бестселер, атрымаць грошы. Каб у наступны год выпусціць яшчэ адзін бестселер і г. д. З імі ўсё зразумела. Нехта выпускае боты, нехта кніжкі.

І ўсё ж, для каго ствараецца культура? Адказ можа быць толькі адзін: культура ствараецца дзеля культуры. Рэч у сабе.

Недзе я чытаў, здаецца, у Іскандэра: народ засвойвае не больш 5 працэнтаў культуры. 95 спажываюць самі вытворцы.

Інакш, яны працуюць самі для сябе. Тады для чаго ўсё?

Магчыма, я памыляюся, але, верагодна, гэтых 5 працэнтаў хапае, каб не вярнуцца ў пячоры, не пазабіваць адзін аднаго. Біблія, этыка, рэлігія ўвогуле — гэта таксама культура, а не цывілізацыя...

«Звер усё разумее, але не можа сказаць. Чалавек не разумее нічога, але сказаць можа».

Парадокс: зверу культура не патрэбна, ён і так усё разумее. Культура патрэбна якраз чалавеку. І не больш чым 5 працэнтаў.

❑

*«Кто подобен мудрецу,*
*кто знает толкование слова:*
*«Мудрость человека просветлит его лик?»*
*По мере — приказ царя соблюдай,*
*Но только ради клятвы перед Богом;*
*Не спеши от него идти,*
*при деле злом не присутствуй,*
*Ибо все, что желает, творит он,*
*Потому что царское слово властно,*
*И кто ему скажет: «Что творишь ты?»*
*Соблюдающий заповедь злого дела не познает,*
*А срок и приговор узнает сердце мудреца.*
*Ибо всякой вещи есть свой срок и приговор,*
*Ибо зло на совершившего тяжко ляжет...»*

***«Эклезіяст».***

А яно-такі кладзецца на «совершившего». Возьмем навейшую гісторыю, імёны, вядомыя кожнаму.

Леніна ў канцы жыцця паралізавала, ёсць здымак, дзе ён проста не выглядае нармальным чалавекам.

Дагэтуль невядома дакладна: ці сам памёр Сталін, ці яму дапамог верны саратнік Берыя. Жонка скончыла самагубствам, Якава забілі ў палоне пасля таго, як бацька здрадзіў свайму сыну, Васіля пасадзілі, потым арганізавалі аўтакатастрофу, Святлана ўвогуле эмігрыравала.

Гітлер быў прымушаны глытаць атруту разам з жонкай.

Хрушчова падседзелі, выгналі на пенсію. Пасутнасці, да смерці пражыў пад хатнім арыштам.

Мусаліні разам з палюбоўніцай павесілі ўніз галавой.

Брэжнеў пад канец жыцця натуральна разваліўся і жыў на ін'екцыях.

Андропаў і Чарненка так доўга чакалі свайго часу, што не паспелі адчуць асалоду ўлады: абодва былі хадзячымі трупамі.

Фігура Гарбачова была заўсёды дваістая. Ён тое і атрымаў: толькі стаў прэзідэнтам, як з-пад яго выцягнулі краіну...

Спіс можна доўжыць людзьмі больш дробнага маштабу. Ён усё роўна пацвердзіць тую думку, што «зло на совершившего тяжко ляжет». Не на самога, дык на дзяцей, унукаў, праўнукаў. І менавіта цяжка.

❑

Чалавека з прозвішчам Марцін Шакум ніколі не выберуць прэзідэнтам Расіі. Нават Джугашвілі быў прымушаны стаць Сталіным.

Празрыстыя, крыштальныя словы Олдаса Хакслі: «Свабода — гэта круглая пробка ў квадратнай дзірцы». Іншымі словамі, штосьці ў прынцыпе магчымае, але вельмі зыбкае і ненадзейнае. Што патрабуе пастаяннай падтрымкі...

❑

Я даўно назіраю за Зюганавым. Не за тым, што ён гаворыць ці робіць: гэта нецікава і вельмі трывіяльна. Мне цікавы яго твар, як ён гаворыць, як рухаецца. Доўга не мог зразумець, што мяне засмучае ў яго твары. Як ні смешна, адказ на гэта пытанне прыйшоў якраз ноччу. Зюганаў не ўмее ўсміхацца. Пры гэтым ён ведае, што ўсміхацца трэба, што гэта імідж. Ён нават спрабуе ўсміхнуцца калі-нікалі. Але — не атрымліваецца. Штосьці даволі страшнаватае выходзіць. Грымаса. Так і хочацца напісаць: грымаса камунізму. Хоць гэта ўжо будзе ўмяшанне ў справы іншай дзяржавы...

❑

А Яўлінскі ніколі не стане прэзідэнтам. Ён занадта разумны для Расіі.

У Яўлінскага проста комплекс недаацэненага. Ён — не пераможца і заўсёды будзе прымушаны выконваць ролю пакрыўджанага. Тыпу: «Я ж вам казаў, а вы не паслухалі...»

Хоць я маю да яго слабасць: сапраўды самы разумны палітык, магчыма, адзін з самых разумных людзей Расіі.

Шкада. Такія там не прыжываюцца. Каб ён стаў прэзідэнтам, трэба змяніць менталітэт народа. Гэтага ў гісторыі не бывала.

❑

А ўвогуле, ці можна быць чэсным палітыкам? Цікавае пытанне. Класічна: палітыка — брудная справа. Але толькі гэтым нічога не растлумачыш. Гэта — уход ад пошуку ісціны.

Генерал дэ Голь. Калі ў 1958 годзе ён чарговы раз прыйшоў да ўлады, абяцаў «разабрацца» з Алжырам, тады французскай калоніяй. Французы, якія жылі ў Алжыры, а іх было больш мільёна, яму паверылі. Дэ Голь пайшоў на перагаворы з алжырскімі сепаратыстамі. І прадаставіў краіне незалежнасць. І пачалася разня. Паўстанне пад кіраўніцтвам ОАС. Гэта чэсна? Наўрад ці. Справядліва? Так. Дэ Голь абышоўся «малой крывёй». А гэта справядліва ў адносінах да таго мільёна французаў? Не. Генерал зрабіў правільна? Безумоўна. Але як быць з тымі, каго ён падмануў? Як быць з той крывавай вакханаліяй насілля, справакаванай «справядлівым» рашэннем дэ Голя? Толькі адных замахаў на генерала было не менш дзесятка.

Я не магу адказаць на гэтыя пытанні. Хто адкажа? Верагодна, уся палітыка — гэта суцэльны кампраміс. Між крывёй малой колькасці і крывёй вялікай колькасці. Між гуманнасцю агульначалавечай і гуманнасцю проста палітыкі.

А самае простае, калі палітык можа дагаварыцца з усімі. Тады я за гэта. За непрынцыповасць дзеля міру ў грамадстве. Не трэба крыві. Мы — стаміліся...

❑

Як выйсці з паўторнасці сітуацый?

Кожны дзень адно і тое ж. Работа — дом, дом — работа, канапа і праграма «Часінка», ці баявік, ці серыял. Я часта лаўлю сябе на думцы, што гэта ўжо было. Прама нейкая магія. Летась у гэтым жа тралейбусе злавіў кантралёр, а тут я бачыў таго ж чалавека, які прасіў міласціну, а там я сустрэў тую ж «даму з сабачкам» і г. д. Гэта надакучвае...

А выйсце, яно даволі простае і мудрае. Люблю паўтараць Даўлатава. Непапраўная толькі смерць. А ўсё астатняе не так важна, як здаецца.

Гэта толькі ўяўныя каштоўнасці. Адна праблема: уяўныя каштоўнасці мы прымаем за сапраўдныя. Значыць, наступная праблема — разабрацца, што ісцінна. Некаторыя трацяць на гэта ўсё жыццё.

Так што нярварта губляць час на перажыванні наконт паўторнасці. Гэта наша жыццё.

❑

Часта думаю: навошта было пісаць Біблію? Хто яе зараз чытае? А самае галоўнае: хто жыве па яе запаветах?

Самае цікавае, гэта можна высветліць. Паводле назіранняў, пастаянна веруючых людзей па розных крыніцах налічваецца ў любыя часы не больш як 10—20 працэнтаў. Не так і мала. У тым сэнсе, што, верагодна, іх больш і не трэба. Гэтага дастаткова. Веруючы чалавек не дазваляе няверуючаму спускацца ў пекла. Не так ужо прама не дазваляе. А проста, калі — сорамна.

Я сам сустракаў такіх людзей. Мы, канешне, народ унікальны. З нас так доўга выбівалі чалавечае... І ўсё роўна, побач з ісцінна веруючым цяжка тварыць зло.

❑

Разам з тым, стаянні на царкоўных службах вышэйшых асоб дзяржавы — я гэтаму не веру і ніколі не паверу. Гэта палітыка. Яны нават не ўмеюць сябе паводзіць у царкве. Я таксама не ўмею, але не выстаўляю на публічны паказ сваю веру. А яна простая. Бог — гэта справядлівасць, так напісана ў паліцэйскіх участках Амерыкі. Не так і неразумна.

А яна ёсць? А ці так гэта важна? Яе пошук — па-мойму, гэтага хапае. Гэтым падтрымліваецца баланс паміж дабром і злом.

А іншая крайнасць — калі іерархі царквы занадта часта з'яўляюцца на людзях. На першых людзях, калі іх так можна назваць. Гэтага нельга. Ім я таксама не магу верыць.

Царква — гэта тайна, а размова з богам не церпіць мітусні. Можа, гэта знак эпохі, не ведаю. Проста прыняць яго я не магу. Толькі адно ведаю: бог у душы, а не ў царкве. Хоць магчыма, гэта і крамольна.

Ва ўсякім выразе, кожны мае права на сваё меркаванне. І на свой учынак...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

# БЕЛДЗЯРЖУНІВЕРСІТЭТ: учора, сёння, заўтра

(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.).

## ШТО ТАКОЕ УНІВЕРСІТЭТ

***Кар.*** **Апошнім часам ледзь не ўсе інстытуты сталі называцца універсітэтамі ды акадэміямі — само паняцце «універсітэт» пэўным чынам нівеліруецца. Як у гэтым плане выглядае БДУ, ці ўдаецца захоўваць сапраўдныя універсітэцкія традыцыі? І ў звязку з гэтым — у рэспубліцы працуюць не толькі дзяржаўныя, але і недзяржаўныя ВНУ. Апошнія рэкламуюць сябе як «універсітэты еўрапейскага ўзроўню». Ці не баіцца БДУ канкурэнцыі?**

***П. Кухарчык.*** Сапраўды, нас здзіўляе, як можна стварыць навучальную ўстанову, ды яшчэ універсітэцкага тыпу, без наяўнасці неабходнай для гэтага матэрыяльнай базы і кадравага забеспячэння. Заўсёды было так: спачатку ствараецца навучальная ўстанова, а потым ужо адкрываецца. Ці прыйшло б каму ў галаву спачатку адкрыць, напрыклад, клініку, а потым яе будаваць? А, аказваецца, навучальную ўстанову — можна. Паглядзіце, якія намаганні, у тым ліку і па выдзяленню матэрыяльных сродкаў, прыкладала ўся краіна, каб адкрыць наш універсітэт. Адукацыя — справа вельмі сур'ёзная, і таму мы ставімся да яе арганізацыі з усёй адказнасцю. З аднаго боку, прытрымліваемся пункту гледжання, што пашырэнне сетак ВНУ значна павялічвае магчымасці ў задавальненні адукацыйных патрэб грамадзян, і мы нават рады наяўнасці канкурэнцыі. Але ж калі гаворка ідзе аб вышэйшай адукацыі, нас не можа не турбаваць агульны ўзровень аказваемых адукацыйных паслуг. Часта ў новастворaных ВНУ асноўны ўхіл робіцца на вывучэнне замежных моў і на авалоданне камп'ютэрам. А спецыяльныя і агульнаадукацыйныя дысцыпліны выкладаюцца па абмежаваных праграмах.

Мы ж на падставе традыцый класічнай універсітэцкай адукацыі арыентуемся не на вузкую спецыялізацыю, якая можа выглядаць прывабней толькі на першых ступенях службовай дзейнасці выпускніка. Хаця і ў нас карэнным чынам перабудаваны блок сацыяльна-гуманітарнай падрыхтоўкі. Але нават пры ўвядзенні новых «прэстыжных» спецыяльнасцей вучэбныя планы арыентуюцца на класічную фундаментальную падрыхтоўку, якая дазваляе чалавеку самастойна авалодваць ведамі ў вузкай галіне.

У гэтым годзе распрацавана «Канцэпцыя развіцця БДУ», згодна з якой безумоўным прыярытэтам у дзейнасці універсітэта застаецца падрыхтоўка высокапрафесіянальных спецыялістаў для навукі, культуры, галін вытворчасці і сістэмы адукацыі на ўсіх узроўнях функцыяніравання — спецыялістаў, здольных паспяхова і кампетэнтна вырашаць складаныя праблемы, з якімі сутыкнулася наша грамадства на мяжы XXI стагоддзя.

Адзначу, што Белдзяржуніверсітэт з'яўляецца прызнаным вучэбна-метадычным цэнтрам рэспублікі, забяспечваючы распрацоўку сучасных адукацыйных тэхналогій, падрыхтоўку вучэбнай літаратуры для ўсёй сістэмы вышэйшай адукацыі ў Беларусі. Універсітэт з'яўляецца галаўной ВНУ па распрацоўцы тыпавых вучэбных планаў і праграм па найбольш прыярытэтных і фундаментальных накірунках развіцця навукі, культуры, адукацыі.

***А. Лесніковіч.*** Хачу ў дадатак звярнуць увагу на наступнае: многія ўяўляюць універсітэт выключна вучэбнай установай — але гэта ў прынцыпе няправільна. Неразуменне гэтага пытання і прывяло да сітуацыі, калі ў Беларусі ўзнікла мноства універсітэтаў — па назве. Я не супраць, калі новыя ВНУ ператвораца ва універсітэты — па зместу. Але асаблівасць сапраўднага універсітэта ў тым, што тут непарыўная даследчая і выкладчыцкая дзейнасць. Са старэйшага ў свеце Балонскага універсітэта (Італія), які ўжо адзначыў 900-годдзе, я прывёз універсітэцкую Хартыю, падпісаную 80 рэктарамі буйнейшых еўрапейскіх універсітэтаў. Там выкладзены асноўныя прынцыпы функцыяніравання універсітэта, галоўны з якіх — непадзялімасць вучэбнай і навукова-даследчай дзейнасці. Каб гэты прынцып рэалізаваць, навучальная ўстанова павінна мець добрую навукова-даследчую базу, гарант нармальнага развіцця навукі. Толькі ў такім выпадку можна гаварыць пра універсітэцкі ўзровень адукацыі: выкладчык на перадавым рубяжы навукі, а студэнты, засвойваючы навуковую метадалогію, паралельна далучаюцца да навуковых пошукаў. У іншым выпадку адбываецца звычайнае механічнае засваенне гатовых ведаў, што не прыводзіць да фарміравання творчай асобы, здольнай генерыраваць ідэі, а значыць, і будучага краіны.

***Кар.*** **Не магу не спытаць пра «канверсуемасць» дыплома БДУ на сусветным адукацыйным рынку.**

***П. Кухарчык.*** Гэта пытанне настолькі складанае, што не вырашана нават у межах Еўрапейскага саюза... Тым не менш адзначу, што ў савецкі час толькі дыпломы дзвюх беларускіх ВНУ — нашага універсітэта і ВІЗРВ — ацэньваліся як канверсуемыя ў ЗША і еўрапейскіх краінах. Акрамя таго, БДУ мае 30-гадовую гісторыю выдачы выпускнікам-замежнікам дыпломаў магістра. Дарэчы, зараз ва універсітэце вучацца студэнты і аспіранты з 30 краін свету.

***Кар.*** **Некаторыя таленавітыя выпускнікі БДУ — інтэлектуальная, навуковая, культурная эліта рэспублікі — выязджаюць працаваць за мяжу. Нават тэрмін адпаведны з'явіўся — «вываз мазгоў». Атрымліваецца: наша далёка не багатая краіна за свой кошт рыхтуе спецыялістаў для іншых. Якое стаўленне да гэтай паблемы ў кіраўніцтва БДУ?**

***П. Кухарчык.*** Мы павінны накіроўваць сваіх выпускнікоў за мяжу, каб яны там атрымлівалі адукацыю. Прывяду такі прыклад: Японія пасля вайны накіравала 300 тысяч маладых людзей для атрымання адукацыі ў ЗША і іншыя развітыя краіны. Мяркую, палова з іх не вярнулася на радзіму. Але тыя, хто вярнуўся, атрымаўшы адукацыю ў лепшых універсітэтах свету, сталі інтэлектуальнай элітай краіны.



***Кар.*** **У нас крыху іншы працэс: маладыя людзі атрымліваюць адукацыю ў Беларусі і з'язджаюць.**

***П. Кухарчык.*** Калі яны папрацуюць у замежжы і праз гадоў пяць палова з іх вернецца на Беларусь — таму што радзіма ўсё роўна пацягне да сябе, — то ад гэтага будзе ў выйгрышы наша грамадства.

Агульную фундаментальную падрыхтоўку ў БДУ студэнты атрымліваюць вельмі высокую — на ўзроўні лепшых класічных універсітэтаў свету. Праблема ў тым, што ў нас на ўзроўні спецыялізацыі не хапае то тэхнікі, то тэхналогіі, то выкладчыкаў. Але фундаментальная падрыхтоўка, паўтараю, грунтоўная: нашы студэнты, едучы па вучэбных абменах у замежжа («уключаная адукацыя»), з лёгкасцю праходзяць там навучанне (Германія, Францыя, Вялікабрытанія, інш.). Калі я быў у Мічыганскім універсітэце, хадзіў на лекцыі па фізіцы і са здзіўленнем адзначаў: для студэнтаў 3 курса гэтага знакамітага універсітэта чытаецца матэрыял, які ў нас добра ведае студэнт 1 курса ці нават выпускнік сярэдняй школы.

## КАЛЫСКА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ НАВУКІ

***Кар.*** **Як вядома, менавіта ў Белдзяржуніверсітэце паступова нараджалася беларуская нацыянальная школа навукі. Універсітэт застаецца моцным навуковым цэнтрам, альбо яго навуковыя пазіцыі істотна пахіснуліся? І ў сувязі з гэтым — ці не загіне фундаментальная навука, плённае развіццё якой у многім акурат і абумоўліваецца належнай матэрыяльнай базай?**

***А. Лесніковіч.*** Пакуль будзе жыць універсітэт, фундаментальная навука тут не загіне. Не ўсе, напэўна, ведаюць, што ў БДУ працуюць тры навукова-даследчыя інстытуты. Прозвішчы многіх нашых навукоўцаў набылі сусветную вядомасць. Дырэктарам НДІ ядзерных праблем прафесарам У. Барышэўскім здзейснены два адкрыцці ў галіне ядзернай фізікі, на падставе якіх быў створаны новы навуковы накірунак — ядзерная оптыка палярызаваных асяроддзяў. Праводзіліся работы па распрацоўцы лазераў рэнтгенаўскага выпраменьвання і сістэм для выяўлення ядзернай зброі. Нават былі праведзены сумесныя савецка-амерыканскія эксперыменты па выяўленню базіравання ядзернай зброі, якія паказалі эфектыўнасць навуковых работ. Зараз вядуцца эксперыменты, звязаныя з распрацоўкай прыбораў для дазіметрычнага і радыеметрычнага кантролю наваколля.

НДІ прыкладных фізічных праблем, які ўзначальвае акадэмік А. Чарняўскі, таксама добра ведаюць у замежжы, бо працы навукоўцаў вызначаюцца навізной падыходаў да вырашэння многіх пытанняў. У гэтым інстытуце працуе Ф. Камароў, які ўпершыню ў свеце здолеў кіраваць патокамі рэнтгенаўскага выпраменьвання, стварыўшы адпаведную сістэму. Добра вядомыя і работы хімікаў — нашага былога рэктара М. Капуцкага (у яго шмат замежных патэнтаў на лекавыя прэпараты так званага пралангіраванага дзеяння), акадэміка У. Свірыдава (яго распрацоўкі дазваляюць з чорна-белага негатыву атрымліваць фантычна-каляровыя фотаздымкі, што можна шчырока выкарыстоўваць у рэкламе). Шмат лекцый у замежных універсітэтах чытаюць матэматыкі прафесары П. Забрэйка і Ю. Харын. Вучоны А. Супрун добра вядомы ў галіне славянскага мовазнаўства. Многія нашы навукоўцы-юрысты ўдзельнічалі ў распрацоўцы праекта Канстытуцыі, заканадаўчых кодэксаў. Некаторыя іх распрацоўкі ўзяты ў якасці мадэльных для краін СНД. Прыклады можна доўжыць і доўжыць.

***Кар.*** **У так званыя часы застою навукоўцы скардзіліся на «жалезную заслону», цяпер з'явілася не менш складаная «фінансавая заслона» для нармальных сувязей з замежнымі калегамі і універсітэтамі?**

***П. Кухарчык.*** Праблема замежных навуковых камандзіровак вучоных, на жаль, існуе: не хапае сродкаў. Навукоўцы ездзяць за мяжу ў асноўным у тых выпадках, калі прымаючы бок фінансуе і праезд, і медстрахоўку, і ўсе іншыя выдаткі.

***Кар.*** **Ва універсітэцкай бібліятэцы няма праблемы «інфармацыйнага вакууму» (замежныя навуковыя выданні каштуюць дорага)?**

***П. Кухарчык.*** Для набыцця неабходнай літаратуры выкарыстоўваем усе магчымыя сродкі (у тым ліку і небюджэтныя): калі не будзе добрай бібліятэкі, дык мы ператворымся з універсітэта ў другарадную навучальную ўстанову. Прынамсі, бібліятэка БДУ займае чацвёртае месца сярод бібліятэк краіны і з'яўляецца метадычным цэнтрам для бібліятэк усіх ВНУ рэспублікі.

## ЦІ НЕ АДБУДЗЕЦЦА «РАЗРЫВУ ПАКАЛЕННЯЎ»?

***Кар.*** **Загадзя прашу прабачэння, але не магу не задаць праблемнае пытанне: зарплата прафесара зараз меншая, чым у некаторых работнікаў некваліфікаванай працы — таму таленавіты маладняк знаходзіць сабе прымяненне ў фінансава-выгадных сферах дзейнасці, і гэта зразумела. Ці не атрымаецца, што фізічнае старэнне прафесарска-выкладчыцкага саставу адначасова будзе інтэлектуальным і маральным крахам БДУ?**

***А. Паўлаў.*** Нізкі ўзровень зарплаты негатыўна адбіваецца перш за ўсё на псіхалагічным стане выкладчыкаў: узровень зарплаты звязаны з адносінамі грамадства да спецыяліста, да яго працы (міліцыянер атрымлівае ў два разы больш, чым прафесар). Акрамя псіхалагічнага, ёсць і эканамічны бок праблемы: выкладчык ВНУ, каб пракарміць сям'ю, вымушаны падпрацоўваць «на баку». Часу на падрыхтоўку да заняткаў застаецца менш, што і гаварыць... Праз некалькі гадоў грамадства адчуе вынікі абыякавых адносінаў да ВНУ. Паглядзіце, што робіцца ў школах: бацькі скардзяцца на нізкі ўзровень адукацыі. Невыпадкова конкурс у ліцэй пры БДУ — 10—15 чалавек на месца. Большы, чым ва універсітэт!.. Дык чаму б не ўзгадаць: 10—15 гадоў назад у педінстытут ішлі тыя, хто не вытрымліваў конкурс у іншыя ВНУ. І вось атрымліваецца: старая генерацыя настаўнікаў пайшла на пенсію, а належнай замены школа не атрымала... Калі мы не разарвём заганнае кола ў вышэйшай школе, дык да чаго прыйдзем праз 10—15 гадоў?

***П. Кухарчык.*** Што датычыць другой часткі вашага пытання, хацеў бы адзначыць: інтэлектуальнага краху ва універсітэце не будзе. Апантаныя людзі ідуць туды, куды накіраваны іх унутраныя схільнасці, інтарэсы. Калі чалавек з маленства марыў аб матэматыцы, дык ён, нягледзячы нават на нізкую зарплату, пойдзе менавіта па гэтай сцяжынцы. А па разліку ніхто, вядома, не пойдзе працаваць у ВНУ: зараз зарплата дацэнта і прафесара значна ніжэй за сярэдні ўзровень аплаты работнікаў у прамысловасці. Але універсітэт заўсёды трымаўся на апантаных людзях. Так было, так ёсць і так будзе.

***Кар.*** **Малая зарплата выкладчыкаў — гэта вельмі дрэнна, але, з другога боку, яна не дае магчымасці прыстасаванцам выкладаць у сценах універсітэта?**

***П. Кухарчык.*** Безумоўна. Мы стараемся запрашаць на выкладчыцкую працу толькі апантаных людзей, для якіх навука, культура, навучанне з'яўляюцца асноўным сэнсам жыцця. А што датычыць узросту... У першую чаргу трэба глядзець не на ўзрост, а на працу і дзеяздольнасць чалавека. Мы імкнёмся пастаянна абнаўляць выкладчыцкія кадры, каб не было разрыву пакаленняў. Прынамсі, асноўны ўзрост выкладчыкаў БДУ — ад 40 да 50 гадоў.

***Кар.*** **Нельга не закрануць сацыяльную праблематыку. Ці ўсе студэнты БДУ забяспечаны інтэрнатам?**

***А. Паўлаў.*** Усе студэнты без выключэння. Але многія выкладчыкі не маюць жылля. Зарплата не дазваляе купіць кватэру, а дзяржаўнае будаўніцтва жылля спынілася. Гэта не універсітэцкая, а дзяржаўная праблема. У былыя часы для настаўнікаў існавала асобная чарга на жыллё, а універсітэту дзяржава асігноўвала пэўныя сродкі на гэтыя мэты. А цяпер... Некаторыя выкладчыкі ўсё жыццё жывуць у інтэрнатах, там выгадавалі дзяцей. Гэту каласальную сацыяльную праблему можна вырашаць хаця б шляхам льготнага крэдытавання.

## СТУДЭНТЫ — ХТО?

***Кар.*** **14 тысяч студэнтаў — гэта, можна сказаць, сапраўдная армія маладых інтэлектуалаў. А калі намаляваць зборны партрэт сучаснага студэнта, якім ён атрымаецца?**

***А. Зелянкоў.*** Вы ставіце невырашальную задачу!.. Паспрабаваць акрэсліць тыпалагічны партрэт сённяшняга студэнта, вядома, можна, аднак гэта будзе абстрактная схема, бо кожны студэнт — непаўторная асоба. Цяперашнія студэнты — гэта пакаленне, на долю якога выпалі складанейшыя выпрабаванні эпохі татальнай нестабільнасці. Маладыя людзі спалучаюць уласцівы маладосці аптымізм і аналітычнасць, рацыянальнасць, нават пэўную меркантыльнасць і прагматызм. У параўнанні са студэнтамі 70—80-х яны больш інфармаваныя, больш дасведчаныя (хаця не сказаць — больш адукаваныя), свабодныя і незакамплексаваныя. Аднак пералічаныя характарыстыкі могуць нарадзіць маральныя перакосы, якія зусім не ўпрыгожваюць сучасных маладых людзей.

***Кар.*** **Дазволю сабе пытанне «на засыпку»: універсітэты ва ўсе часы лічыліся расаднікамі вальнадумства. БДУ — не выключэнне?**

***А. Зелянкоў.*** Я б не зусім пагадзіўся з кантэкстам пастаноўкі пытання: у тэрміне «расаднік вольнадумства» ўтрымліваецца пэўнае негатыўнае каштоўнаснае адценне. Універсітэты з часоў сярэднявечча заўсёды выконвалі дзве функцыі: навучанне рамяству і навучанне інтэлекту. Там, дзе ёсць інтэлект, абавязкова павінна прысутнічаць свабода думкі. Таму паняцці «універсітэт» і так званае «вальнадумства» — сінонімы, на мой погляд. Дзе няма свабоды думкі, няма сапраўднага універсітэта. Хаця гэта нельга дэклараваць, нельга ўсталяваць указам, тым больш — нельга забараніць. Атмасфера свабодадумства — такі стан калектыву студэнтаў і прафесараў, які адкрышталізоўваецца дзесяцігоддзямі, калі не стагоддзямі. Неабходна традыцыя.

***Кар.*** **У мінулыя часы існавала размеркаванне выпускнікоў ВНУ з абавязковай адпрацоўкай. Ходзяць упартыя чуткі, быццам бы гэта пытанне зноў паўстае на парадак дня?**

***П. Кухарчык.*** Гэта толькі чуткі. Мы размяркоўваем у асноўным выпускнікоў педагагічных аддзяленняў. Для іншых размеркаванне не праводзіцца. Асноўную задачу універсітэт бачыць у тым, каб падрыхтаваць высокакваліфікаванага спецыяліста, будучыню для нашай краіны, а дзе будзе працаваць выпускнік, у дзяржаўнай ці камерцыйнай структуры, не галоўнае.

## НАВУЧАННЕ БЯСПЛАТНАЕ — ДЛЯ ТАЛЕНАВІТЫХ

***Кар.*** **У БДУ існуе і платная форма навучання — колькі гэта каштуе, якія спецыяльнасці карыстаюцца найбольшым попытам, куды ідуць атрыманыя сродкі?**

***В. Самахвал.*** Для тых, хто вытрымаў конкурс, паспяхова здаў уступныя экзамены — навучанне бясплатнае. На платную форму навучання паступаюць студэнты, якія не прайшлі па конкурсу на бюджэтную форму навучання, або падаўшыя заяву аб прыёме на платную форму па выніках субяседвання. Кошт навучання хістаецца ў межах ад 300 да 1500 долараў — у залежнасці ад формы навучання (дзённая ці завочная) і групы спецыяльнасцей. Найбольш дарагія спецыяльнасці — правазнаўства, паліталогія, міжнародныя адносіны, міжнароднае права, сусветная эканоміка і міжнародныя эканамічныя адносіны, эканамічныя тэорыі, эканоміка кіравання, псіхалогія (на дзённую форму навучання, па выніках субяседвання — 1500, па выніках іспытаў — 900 долараў). Сродкі за платнае навучанне ідуць на зарплату выкладчыкаў (у іх павялічваецца вучэбная нагрузка), на набыццё вучэбнага абсталявання і г. д.

***Кар.*** **Зараз у самым разгары «абітурыенцкі марафон». Якія асаблівасці сёлетняй прыёмнай кампаніі?**

***А. Зелянкоў.*** Гэта сацыяльны парадокс, але жадаючых паступіць у БДУ вельмі шмат. Гавару «парадокс», бо, здавалася б, па ўсіх законах так не павінна было б быць, аднак... Насуперак усяму, моладзь хоча вучыцца, атрымліваць вышэйшую адукацыю, і перш за ўсё ў Белдзяржуніверсітэце — таму што гэта адзіны класічны універсітэт у Беларусі, які прыкметна адрозніваецца і ад нядаўна ўзнікшых у вялікай колькасці, і ад ужо дастаткова стабільных ВНУ. Адрозніваецца перш за ўсё якаснымі параметрамі.

Другая асаблівасць — асноўным попытам карыстаецца сацыяльна-гуманітарная адукацыя. Гэта зразумела: сёння, як ніколі, у дэфіцыце веды, якія дазволяць вызначыць, які магістральны шлях абярэ грамадства. На парадку дня — пытанні светапогляду, выбару мэтаў і сродкаў развіцця грамадства. Маладыя людзі тонка і чуйна рэагуюць на сацыяльную кан'юнктуру, з'яўляючыся спецыфічным барометрам, таму аддаюць перавагу гуманітарным напрамкам. У адвечнай спрэчцы «фізікаў» і «лірыкаў» — калі прыняць гэту тэрміналогію — «лірыкі» сёння дамінуюць.

Трэцяя асаблівасць — БДУ не можа аддзяліць сябе ад грамадства, гэта не аўтаномная закрытая структура, таму ўласцівая грамадству напружанасць адчуваецца і ва універсітэце.

***П. Кухарчык.*** Карыстаючыся магчымасцю, хачу запрасіць маладых людзей, якія жадаюць атрымаць грунтоўную вышэйшую адукацыю, у Белдзяржуніверсітэт.

**Дакументы прымаюцца да 15 ліпеня. Тэлефоны для даведак: 226-59-51.**

**«Круглы стол» правяла Таццяна ПАДАЛЯК.**
**Фота Г. КРАСКОЎСКАГА.**

БЕЗ ЗАПАСУ НЯМА ПРЫПАСУ

## Варым джэм, як англічанкі



У разгары клубнічная пара. Аб тым, як вараць варэнне нашы гаспадыні, можна прачытаць у многіх кнігах. Мы ж раскажам пра тое, што з гэтай ягадай робяць у Англіі. Англічане любяць **джэм. Пры прыгатаванні джэмаў неабходна павольная варка для забеспячэння надзейнага застывання.**

У пачатку невялікую порцыю ягад кіпяцяць у цукровым сіропе прыкладна 1 хвіліну. Пры гэтым сіропу становіцца больш. Яго ўпарваюць для канцэнтравання колеру, смаку і паху. Затым у сіроп дабаўляюць свежую порцыю ягад і паўтараюць працэдуру. Калі ўсе ягады будуць пракіпячоныя такім чынам, сцэджаны сок з адкінутых на друшляк гарачых ягад дабаўляюць да сіропу і зноў яго ўпарваюць да першапачатковага аб'ёму.

Нарэшце, усю клубніцу кіпяцяць яшчэ раз у сіропе 5 хвілін. У час паўторнай варкі з ягадамі адбываюцца дзіўныя пераўтварэнні: яны паглынаюць сіроп і зноў становяцца круглымі і чырвонымі. Джэм гатовы.

**Арыгінальнасць гэтага рэцэпта заключаецца ў паўторным упарванні сіропу,** абагачанага ягадным сокам. У выніку з 5 кг ягад атрымліваецца толькі 2,5 кг джэму. Але затое з выдатным смакам і водарам. Пры ўпарванні канцэнтруецца цукар, таму дабаўляць яго трэба зусім нямнога. На 2 л вады — 1 кг цукру. Гэтага дастаткова для перапрацоўкі 5 кг ягад.

Робяць англічанкі і клубнічны **канфіцюр**. Для таго, каб атрымаць 1 кг канфіцюру, спатрэбіцца кілаграм ягад і 600 г цукру.

Цукар растапляюць у тазе на слабым агні і вараць да размякчэння. Потым дабаўляюць клубніцы і вараць пры слабым нагрэве 10 хвілін, часта памешваючы. Затым ягады аддзяляюць праз рэшата, пастаўленае над тазам, а сіроп вараць далей да густаты.

Дабаўляюць адцэджаныя ягады і павольна вараць яшчэ 15 хвілін. Зноў аддзяляюць ягады і вараць сіроп, пакуль ён не загусцее. Злучаюць з ягадамі і вараць да таго часу, пакуль не будзе дасягнута «кропка застывання». Яна вызначаецца проста. Капнуць на сподачак крыху сіропу, астудзіць. Канфіцюр гатовы, калі там пачне ўтварацца цягучая плёнка.

Гарачы джэм і канфіцюр перакладваюць у падагрэтыя слоікі, але закрываюць іх толькі на наступны дзень.

Клубнічны джэм можна зварыць і такім чынам. Ягады праціраюць праз рэшата, дабаўляюць цукар. На 2 кг клубніц спатрэбіцца 800 г цукру. Сумесь пакідаюць на ноч. На наступны дзень вараць на ўмераным агні, часта памешваючы, прыкладна 15 хвілін або да таго часу, як джэм крыху загусцее. Здымаюць з агню, ахалоджваюць, перакладваюць у слоікі і закатваюць. Выхад джэму — 2,5 кг.

Раім прыгатаваць з клубніц або суніц і **лікёр**.

Чыстыя спелыя ягады насыпаюць да палавіны бутэлькі. Астатнюю палавіну напаўняюць гарэлкай або спіртам. Бутэльку выстаўляюць на сонца на 30—40 дзён, час ад часу ўзбоўтваючы яе. Працэджваюць. Вараць густы сіроп і, калі ён астыне, змешваюць з настойкай. Працэджваюць яшчэ раз, напаўняюць чыстыя стэрыльныя бутэлькі і закаркоўваюць. Захоўваюць у ляжачым становішчы.

А калі дазваляе аб'ём маразілкі, варта **замарозіць** свежыя ягады. Для гэтага мытыя, моцныя плады раскладваюць у адзін слой на паддоне. Ставяць у маразілку, а потым, «каменныя», складваюць у пакеты або іншы герметычны посуд для далейшага захоўвання.



КРЫХУ ВЫНАХОДЛІВАСЦІ

## Абыдземся без насільшчыка



Чамаданы на калёсіках атрымалі шырокае распаўсюджванне, але як быць, калі, збіраючыся ў далёкую дарогу, вы бераце, акрамя чамадана, яшчэ і іншыя рэчы? Падрыхтуйце ручку-кручок са стальнога дроту — уся паклажа паедзе на тых жа калёсіках *(гл. мал.)*

❑

Калі ў вас няма цялежкі для перавозкі чамадана, то яе вельмі проста зрабіць. Да драўлянай планкі (15x30x360 мм) прымацуйце два невялікія колы і дзве іншыя планкі (5x40x630 мм) так, каб утварыўся трохвугольнік. У круглую адтуліну ў папярочнай планцы ўстаўце палку з ручкай і замацуйце балтом з гайкай у вяршыні трохвугольніка. Такое мацаванне дазволіць выкарыстаць палку і па прамому прызначэнню. Дзякуючы апорнаму металічнаму вугалку, прымацаванаму да папярочнай планкі, і аднамудвум рамяням ваш чамадан будзе добра зафіксаваны на цялежцы *(гл. мал.)*.



А Я РАБЛЮ ТАК

## Фарба не абсыплецца

Хачу даць параду тым, хто мае справу з рознымі вадагрэйнымі і ацяплядьнымі ўстаноўкамі — чым пафарбаваць месцы, якія падвяргаюцца ўздзеянню высокіх тэмператур. Вядома, што ніводнае пакрыццё не трымаецца доўга — адслойваецца, лупіцца. Трэба ўзяць алюмініевую пудру («серабранку») і змяшаць з вадкім шклом — звычайным сілікатным клеем. Пафарбоўка гэтай сумессю не абгарае, не абсыпаецца, вытрымлівае высокую тэмпературу. Пакрытая ёю вадагрэйная калонка-тытан доўгі час мае выгляд свежапафарбаванай.



Гэтая фарба падыходзіць і для фарбавання пячных дзверцаў.

МАЛЕНЬКІЯ ХІТРАСЦІ



У разгар хатняга кансервавання патрабуецца шмат сухіх стэрыльных слоікаў. Вырашыць гэтую праблему можна наступным чынам: намыць адразу многа слоікаў, паставіць іх у некалькі радоў у духоўку газавай пліты, запаліць слабы агонь і вытрымаць слоікі пры тэмпературы 120 градусаў на працягу 5—10 хвілін (гл. мал.). Там яны сохнуць і надзейна стэрылізуюцца. Ахалоджваць слоікі трэба павольна, не вымаючы з духоўкі.



# Усходні гараскоп на наступны тыдзень

Кар. ІТАР—ТАСС
Леанід КОТАЎ перадае з Дэлі.

КАЗЯРОГА неадкладная праца прымусіць адмовіцца ад падарожжа. Да ўсяго, будзе вельмі многа хатніх клопатаў. Запатрабуюць увагі дзеці, трэба будзе аплаціць фінансавыя рахункі і вырашыць шмат іншых праблем. Рэшткі сіл адыме падрыхтоўка да прыёму гасцей, так што вольнага часу не застанецца ані.

ВАДАЛЕЮ прыйдзецца добра пабегаць на рабоце, стаміцца ад зносінаў з людзьмі і вырашэння фінансавых пытанняў. Затое вынік будзе добрым. Ваеннаслужачых чакае перавод у вышэйстаячы штаб, і што важна — на поўнач ад цяперашняга месца службы. Тым, хто знаходзіцца ў шлюбе, давядзецца трошкі паспрачацца аб жыццёвых праблемах, а студэнтам парадавацца поспеху на экзаменах.

РЫБЫ будуць заспеты недахопам грошай і кінуцца пазычаць іх у каго толькі можна. Бізнесменаў чакаюць важныя сустрэчы з дзелавымі партнёрамі, а ў Рыб творчых прафесій мяркуюцца паспяховыя выступленні ў сваіх сферах. Сямейнае жыццё пройдзе ў плаўным рытме. Зоркі спрыяюць адпачынку і наведванню цікавых месцаў.

АВЕНЫ атрымаюць вялікую суму грошай, што прымусіць іх па-іншаму паглядзець на акаляючы свет. Лепш за ўсё заняцца бізнесам. Дзяржслужачым нешта перападзе ад начальства.

ЦЯЛЬЦЫ ўступяць у перыяд рамантыкі і прыгодаў. Прастору для гэтага адкрые паездка на адпачынак. Паспяховым будзе бізнес, звязаны з адукацыяй, выдавецкай дзейнасцю, гандлем на экспарт і арганізацыяй падарожжаў.

БЛІЗНЯТЫ, якія прысвяцілі сябе маркетынгу і гандлю, атрымаюць павышэнне па пасадзе. Тыя, хто быў на ролях стажораў і адбываў выпрабавальны тэрмін, будуць зацверджаны на сталую работу. Прадстаўнікоў прыгожага полу чакае нечаканая сустрэча з тым, хто доўга і тайна ўздыхаў па іх без надзей на адказ.

РАКАМ зоркі даюць параду ўважліва лічыць грошы і наогул не губляць пільнасці ў фінансавых пытаннях. Мары аб пабочным будуць увесь час зводзіць вас у бок ад працы. Таму магчымы розныя казусы і ляпы на службе.

ІЛЬВАМ трэба будзе прымаць імгненныя рашэнні для хуткага атрымання добрых вынікаў. Кантакты з народам і грамадскія мерапрыемствы дапамогуць дасягненню вашых мэтаў. На асабістым фронце справы ні так—ні сяк, хоць магчымы і рамантычныя сустрэчы.

Асабліва пашанцуе ДЗЕВАМ, якія прысвяцілі сябе сур'ёзнай банкаўскай справе, а таксама вывучэнню попыту і прапаноў. Зоркі не супраць вашай дзелавой паездкі. Яны таксама абяцаюць прэміяльныя ці пазыку на куплю кватэры ці аўтамабіля. Будучыя сустрэчы з сябрамі — зручная магчымасць адзначыць гэтую падзею.

ШАЛЯЎ чакае новая работа, прызначэнне і перамяшчэнне па службовай лесвіцы. Але спачатку вам давядзецца шмат папрацаваць. Прамаруджанне з прыняццем важных крокаў і нерашучасць могуць пазбавіць вас апекі планет. Гэта вы адразу адчуеце, калі сутыкнецеся з хатнімі праблемамі і ўпэўніцеся, што родныя не заўсёды вас разумеюць.

СКАРПІЁН атрымае задавальненне ад таго, што справы на рабоце пойдуць лепш і весялей. Аматары рызыкоўных гандлёвых аперацый панясуць невялікія страты, але хутка навярстаюць страчанае. Адказныя работнікі засмуцяцца, але вельмі магчымы іх перавод на новую пасаду з паніжэннем. Той, хто захоплены рамантычным пачуццём, можа будаваць самыя смелыя планы — яны абавязкова збудуцца.

СТРАЛЬЦОЎ чакае вельмі паспяховы тыдзень. Працвітаючы бізнес, лёгкае вырашэнне фінансавых пытанняў, удача з выкананнем задуманага дададуць вам сілы і добрага настрою, а гэта дапаможа вырашыць некаторыя праблемы з роднымі, адстаяць асабістую незалежнасць ад пасягальніцтва тых, хто побач.

СПРАВЫ ЖАНОЧЫЯ

## Давярай, але правярай



**Твой сябар рэзка змяніў знешні выгляд — замест падраных джынсаў апрануў строгі касцюм? А можа, з'явіўся ў гальштуку, які не мае нічога агульнага з яго характэрным спартыўна-нядбайным выглядам, і сарамліва гаворыць: «Вось гальштук купіў, як, нішто сабе?» Гэта яшчэ ні аб чым не сведчыць, але варта на сёе-тое звярнуць увагу. Задумайся: ён сапраўды вырашыў змяніць манеру апранацца ці нешта змянілася ў яго жыцці? Глядзіць збянтэжана, як вінаватае дзіця? Ці не ўтойвае чаго?**

Трэба ведаць, што нявернасць праяўляецца ў некаторых тыповых адзнаках. І не абавязкова быць Шэрлакам Холмсам, каб іх заўважыць.

Усім добра вядомы класічныя прыкметы нявернасці: чужыя жаночыя валасы на адзенні, губная памада на шчацэ, пах духоў або нават запіска, забытая ў кішэні. Пападаючыся на гэтым, хітраваты мужчына можа і выкруціцца. Чужыя валасы? — Даваў панасіць світэр сябру. Памада? — Маці ніяк не адвучыцца мяне цалаваць. Пахне духамі? — На рабоце завялі такі асвяжальнік паветра, што ім прапахлі ўсе рэчы. Любоўная запіска? — Што?! Няўжо да цябе не даходзіць, што нехта захацеў разыграць і мяне, і цябе!

Іншы раз гэта бывае і праўдай, але ў вельмі рэдкіх выпадках. Калі твайму каханаму заўсёды ўдаецца апраўдацца так лёгка — тым лепш для яго і горш для цябе. Ты асляплена любоўю і не хочаш заўважаць відавочнага. Вядома, не трэба быць падазронай да ўсяго новага, што адбываецца ў яго жыцці, але і не давай чашы перапоўніцца. Калі каханы памяняў звычкі, густы, паводзіны, з пяшчотнага і спакойнага стаў агрэсіўным — нешта не ў парадку. Калі аматар дэтэктываў захапіўся філасофіяй, а футбольны балельшчык пачаў выказваць цікавасць да мастацкай гімнастыкі — SOS! — гэта ўплыў новага захаплення.

ВУЗЕЛЬЧЫКІ НА ПАМЯЦЬ

## З народных прыкмет

❤ Муж паехаў на адпачынак, у камандзіроўку — не падмятай жылля тры дні, а будзеш падмятаць — мужа вымецеш, не вернецца.

❤ Не хочаце аўдавець — пастаянна насіце ў вушах завушніцы. Насіць завушніцы ўдаве — грэх.

❤ У чэрвені пажаніцца — усё жыццё будзе мядовы месяц.

❤ Для падтрымання мужа ў стане закаханасці перыядычна рабіце так — свой любімы пярсцёнак на ноч кладзіце ў чарку з чырвоным віном, раніцай пярсцёнак дастаньце, а віном пачастуйце мужа.

❤ Калі жонка не носіць заручальнага пярсцёнка — мужу шчасця не будзе.

❤ Муж і жонка не ўціраюцца адным ручніком — разлука будзе.



ДЛЯ ВАШАЙ КАРЫСЦІ

## На сонцы ці ў цяньку?

**Промні пяшчотнага летняга сонейка (апошнім часам вельмі рэдкія) прымушаюць задумацца: загараць ці не? Адным загар да твару, а прыемнае шакаладнае адценне нават маладзіць на некалькі гадоў; другім, наадварот, загар толькі шкодзіць: скура ад сонца чырванее, лушчыцца. Выбар за вамі, а ў залежнасці ад яго — наступныя парады. Дапамогуць яны і тым, хто перагрэўся на сонцы.**

☼ **Каб захаваць скуру ад загару**, з вечара ў халодную ваду пакладзіце некалькі кружочкаў лімона і кожную раніцу мыйцеся гэтай вадой.

☼ Ад загару добра дапамагае ласьён з агурка: 50 г свежай скуркі агурка заліце шклянкай вады пакаёвай тэмпературы, дайце настояцца на працягу шасці гадзін і працадзіце. А можна прыгатаваць настойку з насення агуркоў і гарэлкі ў суадносінах 1:10. Настойваць яе неабходна два тыдні, потым працадзіць. Перад выкарыстаннем настойку разбаўце вадой (1:10). Штодзённа праціраўце ёю твар або накладвайце маску на 5—10 хвілін.

☼ **Калі вы хочаце мець загарэлую скуру**, то для лепшага і хуткага загару змазвайце яе алеем, прыгатаваным са свежых ядраў грэцкіх арэхаў.

☼ Каб надаць скуры адценне загару, раніцай і вечарам праціраўце твар сумессю з дзвюх сталовых лыжак соку морквы і адной сталовай лыжкі гліцэрыны.

☼ **Пры сонечным апёку** змяшайце адну сталовую лыжку кашкі з морквы з бялком аднаго яйца. Накладвайце гэтую сумесь адзін—два разы на дзень на апечаныя месцы на 20 хвілін. Замест морквы можна налажыць слой кашкі з цёртай бульбы. Гэта супакоіць боль і папярэдзіць з'яўленне пухіроў.

☼ Калі ад сонца ў вас пачырванее нос, прыпудрыце яго некалькі разоў крухмалам.

☼ Ад сонечнага апёку добра дапамагае кампрэс з адвару кропу. Для яго прыгатавання дзве сталовыя лыжкі нарэзанага кропу заліце дзвюма шклянкамі вады і пракіпяціце не больш чым 5 хвілін. Адвар працадзіце, змачыце ў ім марлю, складзеную ў чатыры слоі, або льняную сурвэтку і палажыце на твар. Зверху — махровы ручнік. Кампрэс трымайце 20 хвілін, затым апаласніце твар халаднаватай вадой.

☼ Абгарэлую на сонцы скуру пратрыце сыраквашай і палажыце на яе здробленыя лісты трыпутніку (падарожніку).

☼ Можна прыгатаваць кампрэсы або прыпаркі з крапівы: восем сталовых лыжак здробленага ў парашок сухога лісця крапівы настояць на працягу гадзіны ў дзвюх шклянках кіпеню.

☼ Вельмі добра дапамагае пры апёках ад сонца і корань дзьмухаўцу. Для гэтага здроблены корань трэба заліць алеем (1:10), суткі настояць, затым гадзіну грэць на вадзяной пары, працадзіць. Гэтым настоем змазваць скуру 3-4 разы праз 20—30 хвілін. Настой добра захоўваецца і эфектыўны нават у выпадках хранічных сонечных дэрматытаў.




☼ **Каб пазбавіцца ад вяснушак і пігментных плямаў**, змазвайце твар сокам клубніц. З ягад выцісніце сок, змачыце ў ім кавалачак ваты або марлі і пратрыце твар.

# РЭШТА



36,6°

# САКРЭТЫ ЯПОНСКАГА ЗДАРОЎЯ: 300 ГРАМАЎ РЫСУ Ў ДЗЕНЬ

**Рыс для нашых суседзяў па Далёкаму Усходу — не проста ежа; японцы лічаць, што ў ім схаваная адна з тайнаў іх фенаменальнага даўгалецця. Гэта свайго роду стрыжань, на які гарманічна нанізваюцца іншыя кампаненты: марынаваная агародніна, міска вегетарыянскага супу, смажаная на рашотцы рыба, кавалачак мяса. Рыс адыгрывае ролю не толькі хлеба, але і гарніру, паколькі, акрамя яго, да другіх страў практычна нічога больш не падаецца.**

Эксперты сцвярджаюць, што такі «хлеб-гарнір» практычна ідэальны, паколькі ён багаты неабходнымі рэчывамі і не прыводзіць да залішняй вагі — гэтай крыніцы павышанага ціску і сардэчна-сасудзістых захворванняў. У той жа час у ім дастаткова вугляводаў для работы па спальванню тлушчу ў вашых клетках. Іншымі словамі, у любой дыеце абавязкова павінен прысутнічаць рыс.

У класічнай японскай місцы змяшчаецца 150 грамаў рыса, зваранага без солі і масла. Тлушчу, што важна, у гэтай порцыі не больш, чым у трэцяй частцы лусты белага хлеба. Бялку — як у паўшклянцы малака; кальцыю — як у адным памідоры; магнію — як у пяці сцяблінках спаржы. Спіс карысных складальнікаў варанага рысу працягваюць вітаміны групы В і Е, жалеза, раслінная клятчатка.

Тысячагадовы вопыт нашых далёкаўсходніх суседзяў і сцвярджэнні дыетолагаў зводзяцца да таго, што даросламу чалавеку пажадана з'ядаць у дзень 300 грамаў рысу замест звыклых булак і батонаў. На думку японскага Нацыянальнага цэнтра харчавання, гэта ідэальная колькасць «хлеба-гарніру» для жыхара сучаснай, прамыслова развітой краіны, які мала рухаецца, знаходзіцца ў асноўным у цяпле і таму губляе няшмат энергіі.

Як гатуюць японцы сваю цуда-ежу? Насыпце рыс у каструлю, заліце вялікай колькасцю вады, хутка перамяшайце ўсё гэта рукой і адразу ж ваду зліце. Заліце вадой зноў і ўжо старанна, з пачуццём, прамыйце. Аперацыю трэба паўтарыць яшчэ разы тры. Пасля гэтага дайце рысу адстаяцца ў вадзе: летам — паўгадзіны, зімой — гадзіну-паўтары.

Добра вытрыманы рыс заліваем новай вадой, якая павінна пакрываць яго ў каструлі. Давядзіце да кіпення, прытрымайце ў моцна булькаючым стане 5—6 хвілін і збаўце агонь, але так, каб кіпенне не спынялася яшчэ хвілін семвосем. Пасля гэтага зменшыце газ да мінімуму і патаміце на ім рыс дзесяць хвілін. Патушыўшы агонь, ні ў якім разе не трэба адразу ж знімаць накрыўку. Зрабіце гэта яшчэ праз некалькі хвілін. Цяпер ваш рыс гатовы.

**Васіль ГАЛАВІН.**
**«АиФ-здоровье».**

## УСМЕШКІ МАСТАКА






Малюнкі Марыны ГАРЭЛАВАЙ

## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

## КРЫЖАВАНКА

**Па гарызанталях:** 7. Ганаровае званне за заслугі ў галіне навукі, культуры, мастацтва. 8. Першы зборнік твораў З. Бядулі. 10. Экскурсавод. 12. Старажытныя літары кірылічнага алфавіта. 13. Нябеснае цела, якое верціцца вакол планеты. 15. Заліў Каралавага мора ля вострава Новая Гвінея. 16. Пшанічны хлеб. 17. Навука, якая вывучае культуру і побыт старажытных народаў па рэчавых помніках. 18. Штаб галоўнага камандавання. 20. Высадка войска на тэрыторыю праціўніка. 21. Павольны сольны або дуэтны танец у класічным балеце. 25. Асобыя войскі ў некаторых зарубежных краінах. 26. Вялікі востраў у заходняй частцы Індыйскага акіяна. 28. Гарызантальная падземная горная вырабатка. 30. Украінскі народны танец. 31. Наступленне мора на сушу ў выніку павелічэння аб'ёму вады ў акіянічным басейне. 32. Славутая сям'я нямецкіх музыкантаў і кампазітараў у Цюрынгіі. 34. Кіраўнік муніцыпалітэта. 35. Беларускі кінарэжысёр, пастаноўшчык фільмаў «Крушэнне імперыі», «Рудабельская рэспубліка». 36. Гвалтоўнае далучэнне тэрыторыі адной краіны да другой.

**Па вертыкалях:** 1. Строй, танальнасць музычнага твора. 2. Калектыў артыстаў тэатра, цырка. 3. Паэма Я. Купалы. 4. Хлебныя злакі. 5. Возера ў Бярэзінскім запаведніку. 6. Старадаўняя французская залатая манета. 7. Ударны музычны інструмент. 9. Дзіцячы ансамбль танца г. Салігорска. 11. Раённы цэнтр на Гомельшчыне. 13. Незалежнасць дзяржавы ў міжнародных адносінах. 14. Аркестровая п'еса М. Глінкі. 19. Час росквіту навукі і мастацтва ў Еўропе пасля сярэдневяковай рэакцыі. 22. Беларускі пісьменнік, аўтар рамана «Серадзібор». 23. Пераламленне сонечных праменняў у кроплях дажджу. 24. Артылерыйскае падраздзяленне. 27. Рэгулярнае грашовае забеспячэнне за выслугу гадоў. 29. Кругасветнае або доўгачасовае падарожжа. 30. Лёгкая скорасная грабная шлюпка. 33. Аповесць Э. Ажэшкі. 34. Амплуа эстраднага або цыркавога артыста.

**Склаў Валерый ПІНЧУК.**
*г. Бабруйск.*



## ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**Крыптаграма (22 чэрвеня).** Ключавыя словы ў ёй: люцік, бугай, чахол, толь. А жартоўная прымаўка такая: «Хто каго любіць, той таго і чубіць».

**Галаваломка (29 чэрвеня).** Стрэлкі на малюнку паказваюць, што другую літару ў пазначаным радку трэба ставіць у першай клетачцы, а першую літару — у другой і г. д. Прымаўка зашыфраваная такая: «Дрэнныя тыя рукі, што не ведаюць ніякай навукі».

**Крыжаванка № 1 (29 чэрвеня). Па гарызанталях:** 5. Фрэска. 7. Тандэм. 9. Маланка. 10. Омуль. 11. Скарб. 12. Барадулін. 15. Шастак. 19. Гарпун. 21. «Балабас». 22. Маскарад. 23. Карамель. 25. Варанок. 26. Каўнер. 28. Зазыба. 33. Анікейчык. 35. Лахва. 36. Драга. 37. Магазін. 38. Талька. 39. Ігумен. **Па вертыкалях:** 1. Цэгла. 2. Тамтам. 3. Італія. 4. Эдыкт. 5. Феміда. 6. Кандыдат. 8. Марабу. 13. Фальканет. 14. Катамаран. 16. Сіманаў. 17. Рататар. 18. Камароў. 20. «Паплавы». 24. Мармелад. 27. Атлант. 29. Брагін. 30. Гноман. 31. Пырнік. 32. Хваля. 34. Прыма.

**Крыжаванка-пераклад з нямецкай мовы (29 чэрвеня). Па гарызанталях і вертыкалях:** 1. Абраза. 2. Статак. 3. Падатак. 4. Страўнік. 5. Разорына. 6. Камінар. 7. Хаўтуры. 8. Дадатак. 9. Шкода. 10. Бабёр. 11. Маладзік. 12. Апалонік. 13. Лазня, 14. Адзёр. 15. Дыван. 16. Шруба. 17. Муляр. 18. Скарб. 19. Кутас. 20. Глеба. 21. Лемантар. 22. Лямпа. 23. Прыкраса. 24. Прыклад. 25. Сваяк. 26. Юннат. 27. Пральня. 28. Брама. 29. Звяно. 30. Выдра. 31. Смецце. 32. Аварыя. 33. Эканомія. 34. Акварэль. 35. Напасць. 36. Красуня.

## ЧАЙНВОРД «Р»

1. Мастацкі кіраўнік, пастаноўшчык спектакля, фільма. 2. Вярчальная частка машыны. 3. Труба канічнай формы для ўзмацнення гуку. 4. Кіраўнік выдання, кнігі, газеты, які зацвярджае яго змест. 5. Ручная агнястрэльная зброя з рухомым барабанным магазінам. 6. Парадак людзей у страі па росту. 7. Апарат для ажыццяўлення хімічных рэакцый. 8. Прыбор, які служыць для зніжэння ціску вадкасці, газу ў сістэмах рухавікоў. 9. Пералік, спіс. 10. Аднародная вадкасць, сумесь рэчываў з вадой або іншай вадкасцю. 11. Апарат для капіравання рукапісаў, чарцяжоў. 12. Сукупнасць драматычных твораў, якія выконваюцца ў тэатры. 13. Ёмістасць, пасудзіна для вадкасцей і газаў. 14. Момант найвышэйшага напружання. 15. Прыстасаванне для ахалоджвання вады або масла ў рухавіку. 16. Сорт вострага сыру. 17. Майстар мастацкай апрацоўкі дрэва. 18. Маска або паўмаска з фільтрам для аховы органаў дыхання, вачэй, вушэй ад пылу, газаў. 19. Работнік газеты, радыё.

**Склаў Іван ХАБЯН.**
Лідскі раён.

## Віншаванні

*Віншуем Валянціну Сяргееўну ПАНАМАРОВУ з днём нараджэння.*

*Жадаем моцнага здароўя, шчасця і радасці ў жыцці. Быць заўжды такой жа добразычлівай і ўважлівай да людзей.*

***Людміла, Іван і Аня Агуто.***

*Дарагая Марыначка! Віншую цябе з днём нараджэння. Жадаю ўсяго самага найлепшага, шчасця, радасці і весялосці.*

***в. Корань, Коранская Н. П.***

*Віншую дарагую матулю МАЖЭЙКА Валянціну Рыгораўну з днём нараджэння. Жадаю здароўя на доўгія гады, шчасця ў жыцці, поспехаў у працы.*

***в. Харосіна, дачка Святлана.***



## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

**6 ліпеня 1568 года** заснавана Заблудаўская друкарня. Яе стваральнікамі лічацца Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец, а сродкі выдзеліў гетман Р. Хадкевіч. Праца над першай кнігай «Евангелле вучыцельнае» — пачалася 8 ліпеня 1568. На яго старонках змешчаны таксама выдатны помнік старажытнабеларускай літаратуры «Слова на Ушэсце Кірылы Тураўскага». «Евангелле вучыцельнае» было вельмі папулярным і неаднаразова перавыдавалася. Значная частка тыражу трапіла ў Рускую дзяржаву.

**6 ліпеня 1796 года** нарадзіўся Мікалай І, расійскі імператар з 1825 па 1855 гады. Падавіў паўстанне дзекабрыстаў, разграміў паўстанне на тэрыторыі Беларусі і Польшчы 1830—31 гадоў, венгерскую рэвалюцыю 1848—49 гадоў; стварыў Трэцяе аддзяленне (палітычную паліцыю ў Расіі).

У гэты дзень **у 1851 годзе** нарадзіўся Янка Лучына (Іван Неслухоўскі), вядомы беларускі паэт.

**6 ліпеня 1905 года** нарадзіўся беларускі паэт, акадэмік АН Беларусі Пятро Глебка.

### Народны каляндар

***У ноч з 6 на 7 ліпеня — Купалле — старадаўняя абрадавая ўрачыстасць. Пад рознымі назвамі вядома ўсім індаеўрапейскім народам.***

У старажытнасці было прымеркавана да летняга сонцастаяння, святкавалася ў гонар сонца, найвышэйшага росквіту жыватворных сіл зямлі, расліннасці, збажыны. Назва «Купала» згадваецца ў летапісах, старажытных беларускіх граматах XII стагоддзя. Хрысціянская царква, змагаючыся з язычніцкімі купальскімі абрадамі, прымеркавала ўрачыстасць да свята Іаана Прадцечы.

**З народных прыкмет:** «На Купалу пачынай касьбу, прайдзі хоць першы пракос. На Іванаву ноч зорна — будзе многа грыбоў. Вялікая раса — ураджай агуркоў».

### Цікава

***Крыміналісты маюць шмат спосабаў вызначэння асобы чалавека. Самыя распаўсюджаныя з іх — адбіткі пальцаў і ўзоры сятчаткі вока. А вось спецыялісты амерыканскай фірмы «Technology Recognition Systems» высветлілі, што ў інфрачырвоным святле твар кожнага чалавека унікальны і непаўторны. Настолькі, што лёгка адрозніваюцца нават абсалютна ідэнтычныя блізняты.***

Справа ў тым, што малюнак размяшчэння крывяносных сасудаў пад скурай твару ў кожнага з нас унікальны, ад шырыні крывяноснай сеткі залежыць тэмпература розных участкаў твару, што і відаць у інфрачырвоных промнях. Гэтая непаўторнасць выкарыстана ў новай сістэме допуску ў строга ахоўваемыя памяшканні. Пры ўваходзе трэба набраць на замку свой персанальны код, пасля чаго сістэма параўноўвае вашу інфрачырвоную выяву з той, якая захоўваецца ў яе памяці.

Фірма, якая распрацавала гэтую сістэму, прадказвае, што інфрачырвоныя замкі ў далейшым змогуць знайсці прымяненне і ў кватэрах. Тады дзверы будуць аўтаматычна адчыняцца пры з'яўленні перад імі гаспадара.

### Дзесьці на белым свеце

***Лаўрэат Нобелеўскай прэміі па хіміі 1986 года Дарлі Гершбах, які выкладае хімію ў Гарвардскім універсітэце, вось ужо 15 гадоў дае сваім студэнтам напісаць паэму на якую-небудзь значную тэму, якая асвятлялася ў апошнім семестры.***

Напрыклад, аб тэрмадынаміцы хімічных рэакцый ці тэорыі хімічнай сувязі. Вучоны лічыць, што паэзія мае шмат агульнага з навукай, а напісанне паэмы параўнальна з самастойнай даследчай працай.

### Кур'ёз

***Нядаўна англійскаму ветэрынару Элізабет Свендсен давялося авалодаць новай для яе спецыяльнасцю — нарколага.***

І не таму, што яна перастала лячыць жывёл. Проста на працягу 3 месяцаў яна лячыла... асла, які пакутаваў вельмі нетыповым для жывёл захворваннем — алкагалізмам. А ўсё пачалося з таго, што гаспадар вырашыў пажартаваць над жывёлінай — даў вослiку пакаштаваць піва...

### Анекдот

*Пакупнік заходзіць на рынак, дзе прадаюць сабак. Спыняецца каля аднаго прадаўца.*

*— Пачым сабака?*

*— Сто тысяч рублёў.*

*— Здаровы?*

*— Здаровы.*

*— А верны?*

*— Можаце не сумнявацца. Пяты раз прадаю.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98.*
*ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.
Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852.
Індэкс 63850.
Зак. № 3372.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.